PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1842) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 2 ВЕРАСНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



*Валянцін Сельвясюк, Міраслаў Целушэцкі і Сакрат Яновіч.*

## ГАНДЛЁВЫЯ СУВЯЗІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ І БЕЛАРУСІ

16 жніўня гэтага года ў Ваяводскай управе ў Беластоку прайшла сустрэча дырэктара Аддзела рэгіянальнай палітыкі Данугы Завадскай і прадстаўнікоў беластоцкіх гандлёвых фірмаў з прадстаўніцтвам урада Беларускай Рэспублікі. З беларускага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі міністр сельскай гаспадаркі Хведар Мірачыцкі, яго намеснік Юры Дзядук і міністр збожжавай прадукцыі Мікалай Якушаў. З беластоцкага боку ў перамовах удзел узялі кіраўнік фірмы „Амега" Міраслаў Целушэцкі, яго супольнік Валянцін Сельвясюк і гаспадарчыя дарадчыкі.

Сустрэча не закончылася падпісаннем канкрэтных гандлёвых кантрактаў. Абодва бакі абмяняліся ўсяго інфармацыяй. Беларуская Рэспубліка можа дастаўляць на Беласточчыну наступныя тавары: машыны МАЗ, трактары „Беларусь", камбайны ды іншыя сельскагаспадарчыя машыны, салярку, апоны для грузавых і легкавых машын, прычэпы, матацыклы, тэлевізары, халадзільнікі, газавыя кухні, вакoннае шкло, фотаапараты, ванны, тазы, штучныя ўгнаенні. Узамен Беларуская Рэспубліка зацікаўлена ў пакупцы збожжа, агародніны і садавіны. Прысутныя на сустрэчы міністры і дырэктар Аддзела рэгіянальнай палітыкі дамовіліся, што на працягу дзесяці дзён дашлюць сабе дэталёвую гандлёвую інфармацыю. Трэба мець надзею, што пасля гэтага пачнуцца ўжо кантракты і гандаль паміж Беласточчынай і Беларуссю. На сённяшні дзень найдалей у гандлёвых перамовах з Беларускай Рэспублікай зайшла фірма Міраслава Целушэцкага „Амега". Міраслаў Целушэцкі і Валянцін Сельвясюк прадугледжваюць, што яшчэ ў жніўні падпішуць кантракт на дастаўку 150 тысяч тон збожжа з Беласточчыны ў Беларусь. Калі нішто не перашкодзіць, то рэалізацыя гэтага кантракту пачнецца ў кастрычніку гэтага года і будзе цягнуцца ўсю зіму і вясну.

Найбольш клопату — гэта маё ўражанне — з наладжаннем гандлёвых сувязяў паміж Беласточчынай і Беларускай Рэспублікай прычыніла ліквідацыя сацыялістычнай сістэмы гандлю. З гэтага ўпадку не паднялася яшчэ ні Польшча, ні яе ўсходні сусед. Беларусь у гэтым годзе не зацікаўлена пакупкай бульбы, але іншыя рэгіёны Савецкага Саюза купілі б бульбу з ахвотай. Чаму б, у такім выпадку, гаварыў Сакрат Яновіч, не купіць Беларусі бульбы і не прадаць яе з прыбыткам іншым рэспублікам? А таму, жартаваў адзін з міністраў, што беларусы наогул добра працуюць, але гандлёўцы з іх благія. Гаварыўшы аднак сур'ёзна, перашкаджае ў гэтым новая сістэма разліку ў гандлі з Польшчай. Бульбу трэба было б купіць за долары, а ў Саюзе за долары яе ўжо не прадасі, а толькі за рублі. Да таго ж, Беларусь падпісала з Масквой дамову, што экспартам унутры Саюза займацца не будзе.

Калі пішу гэтыя словы, у Беласток даходзяць якраз першыя весткі, што ў Савецкім Саюзе войска перахапіла ўладу. Застаецца толькі мець надзею, што ўсё-такі паміж Беласточчынай і Беларускай Рэспублікай наладзіцца гандаль, у выніку якога селянін з Беласточчыны атрымае збыт на свае прадукты, а Беларусь — хлеб.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

Новыя вершы

**Данута Бічэль**

* * *

Не ўсіх дурных вайна пабіла.
Не ўсіх іх і Чарнобыль з'еў.
Яшчэ хапае тут дэбілаў —
абы наеліся ды ў хлеў.

Тут родны бацька кажа сыну:
— Маўчы, набраўшы ў рот вады.
Няхай ганяюць, як скаціну,
абы пражыць свае гады.

Тут кажа маці да дачушкі:
— Хай будуць дзеткі, як і мы.
Расціце, парабкі і служкі, —
нямы, калека і нямы...

## НА ЎСХОД АД ПАЛІТЫКІ

**Размова з ЕЖЫ МАРКАМ НАВАКОЎСКІМ - дырэктарам Цэнтра міжнародных студыяў пры Сенаце Рэчыпаспалітай Польскай.**

*— Што ў сённяшняй Польшчы абазначае тэрмін „усходняя палітыка"?*

— Не ведаю, ці наогул існуе зараз штосьці такое як усходняя палітыка. У сваёй аснове ўсходняя палітыка павінна быць комплексам канцэпцый як доўгатэрміновых, так і кароткатэрміновых — наконт дзеяння дзяржавы ў адносінах да Савецкага Саюза. Яны павінны вынікаць адна з другой. Аднак, зараз па сутнасці існуе толькі бягучая палітычная дзейнасць, накіраваная на ўсход і не звязаная з ніякай канцэпцыяй. Скажу больш — такая дзейнасць надта часта мае ўнутраныя супярэчнасці: дэкларуецца адно, а робіцца другое. Прэферэнцыі паасобных цэнтраў палітычнай улады ў многім розняцца між сабою. Уласна кажучы, адзіным разумным элементам здаецца быць прадпасылка існавання двух незалежных ад сябе напрамкаў: на паасобныя рэспублікі і на крамлёўскі цэнтр. Прадпасылка тая была навізной паўтара года таму назад. На мой погляд, зараз яна недастатковая, паколькі іншыя краіны таксама гэта прыдумалі. Гэты падыход страціў ужо прысмак

**( Працяг на стар. 6)**




# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Хачу яшчэ раз вярнуцца да замежнай дапамогі Беларускаму музею. Першая ў гэтай справе адазвалася беларуская эміграцыя ў ЗША. Адтуль пачалі плысці большыя або меншыя ахвяры. У 1987 годзе я другі раз паехаў у Амерыку. Будова Музея ў гэтым часе была ў разгары. Перад выездам Майсеня дзесяткі разоў паўтараў мне аб тым, што я павінен звярнуцца да ўсіх беларусаў Амерыкі з просьбай і заклікам адносна грашовай дапамогі Музею. Быў гэта час у музейным жыцці вельмі напружаны. Грошай у касе камітэта пабудовы музея практычна не было і ўсё вісела на вельмі тоненькай нітачцы. У любы момант ініцыятыва і практыка будовы Музея магла парвацца. Знаходзячыся сярод беларусаў у Нью-Йорку, Нью-Брансвіку, Дэтройце, Чыкага і Клíўлендзе, стараўся я як найбольш усебакова прадставіць патрэбы Беларускага музея. Цешыла мяне тое, што амерыканскія беларусы з зацікаўленнем, сімпатыяй і зразуменнем адносяцца да ідэі Беларускага музея. Давалі грошы практычна ўсе сабраныя. Сумы былі розныя, ад пяці да ста долараў. Усім я даваў пквітаванні і пасля прозвішчы ахвярадаўцаў Майсеня змяшчаў у „Ніве". Сабраў болей чым дзевяцьсот долараў. Трэба сказаць, што на тыя часы была гэта вялікая сума. Толькі высокую ступень загневанасці гэтай пані, можна было меркаваць, што мае аргументы яе не пераканаюць. Гэта мяне не спалохала і не знеахвоціла. Найважнейшае было тое, што сустрэў я там выдатных прыяцеляў і энтузіястаў Беларускага музея: Веру Бартуль, Сяргея Карніловіча, Пятра Кажуру і іншых. Гэтыя высакародныя і разумныя людзі паслядоўна збіралі і збіраюць грошы на патрэбы нашай пабудовы. Кранула мяне дэкларацыя адзін раз у часе зборкі грошай сустрэўся я з вострай атакай адной пані з Нью-Йорка, якая закінула мне, што я збіраю грошы на „камуністычную мэту". Як мог і ўмеў, так тлумачыў я, што Беларускі музей не мае нічога супольнага з якой-небудзь партыйнай ідэалогіяй і што ён звязаны выключна з нацыянальнай беларускай ідэяй. Беручы пад увагу выдатнага і ахвярнага беларускага дзеяча Кастуся Калошы, які заявіў, што ўнясе ў касу пабудовы Музея тысячу долараў.

Вельмі падтрымліваў і падтрымлівае Беларускі музей карэнны амерыканец Томас Бэрд. Актыўна дапамагаў Музею святой памяці Мікола Заморскі. Дарэчы, прыехаўшы ў Польшчу і пазнаёміўшыся з Музеем і Беларускім таварыствам, Заморскі паабяцаў, што выдзеліць некалькі дзесяткаў тысяч долараў на беларускую друкарню пры Таварыстве і Музеі. На жаль, смерць спыніла гэты яго высакародны намер. Перад смерцю паспеў Мікола Заморскі прыслаць на мае рукі праз прафесара Томаса Бэрда адну тысячу долараў як пачатковую суму, прызначаную на беларускую друкарню. Да сёння трымаю гэту суму і не ведаю, што маю з ёю зрабіць. Лісты да жонкі Заморскага справы не высвеслілі. Дык зараз шляхам гэтай публікацыі накіроўваю пытанне да спадарыні Заморскай адносна гэтай тысячы долараў. Як гаворыцца, ляжыць яна на маім сэрцы каменем і хацеў бы я яе расходаваць на акрэсленую мэту згодна з воляй ахвярадаўцы.

**Алесь Барскі**

************************************************************




19 жніўня а гадзіне 4.00 у Савецкім Саюзе адбыўся палітычны пераварот і ў некаторых рэгіёнах краіны было ўведзена надзвычайнае становішча. Уладу ў СССР пераняў Камітэт надзвычайнага становішча, які ўзначаліў дагэтуляшні намеснік прэзідэнта Генадзій Янаеў. У склад Камітэта ўвайшлі: прэм'ер Валянцін Папоў, міністр абароны Дэмітрый Язаў, шэф КГБ Уладзімір Кручкоў, міністр унутраных спраў Барыс Пуго і іншыя асобы. Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў, які знаходзіўся ў водпуску на дачы ў Крыме, быў узяты пад арышт.

У дэкрэце Камітэта надзвычайнага становішча, падпісаным Генадзіем Янаевым, сцвярджалася, што пераняццё ўлады наступіла ў сувязі з дрэнным станам здароўя М. Гарбачова і з штораз горшай грамадска-палітычнай сітуацыяй у Савецкім Саюзе. Надзвычайнае становішча мела абавязваць амаль на цэлай тэрыторыі СССР на працягу паўгода. Далей былі ўведзены: кантроль прэсы, забарона дзейнасці палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў і масавых рухаў, якая „стаяла б у супярэчнасці з нармалізаваннем сітуацыі", забарона страйкаў і мітынгаў.

Ранкам у Маскве паявіліся танкі гвардзейскіх дывізій Кантамiраўскай і Таманскай, якія занялі пазіцыі вакол Крамля, астанкінскай станцыі радыё і тэлебачання і некаторых іншых дзяржаўных установаў. Потым бронетанкавыя сілы былі ўзмоцнены часцямі паветрана-дэсантных войскаў і АМОНу. Быў акружаны гмах расійскага парламента, у якім знаходзіўся прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын. На прэс-канферэнцыі ў расійскім парламенце Б. Ельцын назваў узнікшую сітуацыю рэакцыйным пераваротам, сам Камітэт надзвычайнага становішча прызнаў бяспраўным і заклікаў да супрацьдзеяння арганізатарам путчу і да агульнарасійскага страйку.

Апоўдні перад сядзібай гарадскіх уладаў у Маскве адбыўся першы мітынг жыхароў горада, потым наступны на Манежнай плошчы. Вакол расійскага парламента дэманстранты пачалі будаваць барыкады. Ноч з панядзелка на аўторак перад расійскім парламентам правяло каля 5 тысяч жыхароў Масквы. Некаторыя вайсковыя часці падпарадкаваліся Б. Ельцыну.

У аўторак спынілі працу ў 28 шахтах Кузбаса і ў 5 шахтах Варкуты. У Маскве і Ленінградзе адбыліся велізарныя мітынгі ў падтрымку Б. Ельцына.

Уначы з аўторка на сераду прыхільнікі Б. Ельцына спынілі бронетанкавую калону, падпарадкаваную арганізатарам перавароту, якая ішла па Садовым кальцы да расійскага парламента. Салдаты адкрылі агонь. Былі ахвяры.

У сераду савецкія дэсантнікі занялі вежу радыё- і тэлевяшчання ў Таліне. Падобныя інфармацыі надышлі з Літвы. Была таксама закрыта радыёстанцыя „Рэха Масквы", якая падтрымлівала Б. Ельцына.

Сакратарыят ЦК КПСС заявіў, што без сустрэчы з М. Гарбачовым ён не ў змозе выказаць свае адносіны да перавароту.

Пасля поўдня Міністэрства абароны СССР дае загад пакінуць Маскву ўсім вайсковым падраздзяленням. Вярхоўны Савет СССР прызнае ўсе распараджэнні Камітэта надзвычайнага становішча нядзейнымі і фармальна вяртае М. Гарбачова на пост прэзідэнта.

Пад вечар у Крым да М. Гарбачова прыбылі 4 удзельнікі перавароту. Гарбачоў не пагаджаецца на сустрэчу з імі і дае распараджэнне арыштаваць іх.

Пасля поўначы, у чацвер, самалёт з М. Гарбачовым прызямляецца ў Маскве. М. Гарбачоў яшчэ на лётнішчы прызнаў асабістую заслугу Б. Ельцына ў супрацьдзеянні незаконнаму перавароту і абароне дэмакратыі.

Чатырох з васьмі ўдзельнікаў Камітэта надзвычайнага становішча было арыштавана, адзін паконччыў самагубствам (Б. Пуго), адзін знаходзіцца ў бальніцы, аднаму ўдалося збегчы, статус апошняга — з увагі на дэпутацкі імунітэт — яшчэ не вызначаны.

Прэм'ер Расіі І. Сілаеў заявіў, што ініцыятарам і галоўным ідэолагам перавароту быў старшыня Вярхоўнага Савета СССР Анатолій Лук'янаў, які персанальна не ўвайшоў у склад Камітэта.

У чацвер М. Гарбачоў назначыў новых міністраў на месца арыштаваных удзельнікаў Камітэта. Б. Ельцын заявіў, што мае намер абмеркаваць з М. Гарбачовым склад новага ўрада, які гарантаваў бы забеспячэнне палітычных і эканамічных рэформаў у краіне.

У пятніцу М. Гарбачоў выступіў на пасяджэнні Вярхоўнага Савета Расійскай федэрацыі. Публічна дайшло да палітычнай канфрантацыі прэзідэнтаў СССР і Расіі. У часе выступлення М. Гарбачова Б. Ельцын заявіў, што падпісвае дэкрэт аб спыненні дзейнасці камуністычнай партыі ў рэспубліцы.

Новыя намінацыі ў склад савецкага ўрада, паводле агульнага пераканання, былі праведзены М. Гарбачовым пад дыктоўку Б. Ельцына.

Спроба вайсковага перавароту спрычыніла далейшую дэзінтэграцыю Савецкага Саюза. Аб поўнай незалежнасці заявілі Эстонія, Латвія, Малдавія, Украіна і Беларусь (25 жніўня 1991 г.).

Міхаіл Гарбачоў адмовіўся ад функцыі генеральнага сакратара ЦК КПСС. Адначасова наказаў канфіскацыю маёмасці КПСС і забараніў дзейнасць КПСС ва ўзброеных сілах і ў КГБ.

(ям)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Данута Бічэль-Загнетава: Міколе Дзямянцэю.
* Як мы збіралі подпісы - дзеліцца Аляксандр Максімюк.
* Ігар ідзе ў школу - клопат маці.
* Два галасы пра Міхася Кавыля.
* Будаўнікі Беларускага музея.
* Весткі з вёсак Беласточчыны.

# ВІНШУЕМ!



1 верасня спаўняецца 78 гадоў з дня нараджэння **МАСЕЯ СЯДНЁВА**. Управа „Белавежы" і рэдакцыя „Нівы" віншуюць Юбіляра з гэтай датай і зычаць яму добрага здароўя, доўгіх год жыцця.



4 верасня споўніцца 55 гадоў **САКРАТУ ЯНОВІЧУ**. Управа „Белавежы" і рэдакцыя „Нівы" віншуюць Юбіляра з гэтай датай і жадаюць яму ўсяго самага добрага ў жыцці, творчай працы і палітычнай дзейнасці.



7 верасня 50 гадавіну з дня нараджэння адзначаць будзе **УЛАДЗІМІР ГАЙДУК**. З гэтай нагоды ўправа „Белавежы" і рэдакцыя „Нівы" жадаюць яму моцнага здароўя і творчага плёну.

## САКРАТ ЯНОВІЧ

### ПРАРОЦТВА

Беласток пачатку дзевяностых гадоў зрабіўся пустым, хоць і поўным людзей. Неўпрыкмет старым дурням — і падгалым маладым, якія насілі яшчэ кашулю ў зубах, калі тыя вуліцы вечарамі нагадвалі правінцыяльную рэпліку нейкіх бульвараў. Натоўп валіў быў тратуарамі, бы на прыходскім фэсце, мардатазадаволены ды па-квактушынаму сямейны. Пахацела цукеркамі, усё мятнымі. Мужчыны пілі з кухляў піва, ад якога патыхала туалетам. Кавалерка купляла ў газетных кіёсках кандоны і, не ведаючы, што з імі рабіць, цішком хваліліся між сабою. Хто прыйшоў з войска, умеў аналізавацца.

Усяго было неяк у меру, а забівалі каго зусім як на вялікае свята (паўБеластока збягалася хаваць такога).

Жыў я на Смольнай з вішнякамі. У хатцы з дошак і пілавіння, штубацкім кватарантам лесбійскай пары фабрычных дзевак. Вясковай і, асаблівa, местачковай моладдзю заплыў з берагамі гэты жыдоўскі да вайны горад. Жаніліся яна, гуляючы вяселлі ў заполлі, ці то ў лясуноў. Сыпаліся ўнучаняты. Буянілі хрэсьбіны. Магістрат даваў дзетным парам адпапакаёвыя кватэры, бы ў эвакуацыю. Хамуцкія бацькі ўспамагалі іх пасудаю, пасцеллю і калыскай. Шафу і рассаўны стол набывалі ім яны, напрадаваўшыся кормнікаў, нанасіўшыся малака малачарнікам. Дабрабыт ішоў, аднак, як па смерць. Чакалі-прычакалі: пачалі вырастаць сыночкі-дочкі ды паміраць іхныя дзядулі з бабусямі, пакідаючы гаспадаркі на салідны торг за купчую (гэта пасля зямля з хлявамі і стадоламі ўпала ў бесцань). Тады і завуркаталі каля блокаў першыя прыватныя аўта, паезджаныя, з рук прываршаўскіх шанцоўнікаў. Прысвяткамі сядалі ў іх, напахнёныя панствам, і перліся ў забеластоцкую глуш муляць вочы родным недабойкам (удача асмяшае галоту).

Пасля я ўжо не бачыў шчаслівейшых за іх людзей.

Такая эпоха, аднак, плодзіць пакаленне неўдалотаў. Лялікаў і беларучак, якім анічога не хочацца і жыццё ім не пад сілу. Ды і спароўваюцца яны без ладу і складу, па-бурдэльнаму родзячы паўсіротаў. У гэтай тхлані пісьменнага варварства зацвітае зародак наступнага — у выніку прапажы вёскі — парадку. Інтэлігентныя байструкі, хліснуўшы гора з бядою ў заваленых кніжкамі галодных кватэрах, дадуць новы ход для цывілізацыі, прыдаючы ёй неабходнай драпежнасці, але не па-пляменнаму разбойнай.

Чалавеку дзеля дарослаcці трэба трыццаці гадоў. Столькі сама не будзе толку ў вялікім і вельмі ж разумным Беластоку. А пакуль што — тантаніна, грыжа, і паспешлівыя паховіны тых, хто прыбіўся сюды ў пасляваенная разводдзе, бы вымытае дрэва з карэннямі...

## УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

* * *

Такой хвіліне сэрца аддаю,  
Што векам будзе свежай на паперы,  
А словы, бы на камені разьбу,  
Ні бура' ні агонь не пераменіць.

Сваім павабам, шчырасцю сваёй  
І радасцю і горкімі слязамі  
Будзеш, хвіліна, вечнай і жывой,  
І будзеш жыць, калі мяне не стане.

ЛІРЫЧНЫ ПЕЙЗАЖ

Зноў пойдзеш са мной  
у шэрасць жыцця,  
Каб вобраз жывы схаваць у далоні.  
На поўнач дарога ў ноч,  
Мінулае зоркамі свеціць.

Поўдзень стрэліў асколкам жывіцы,  
Празрыстых калёраў мы нахапалі.  
Шырокія вокны, а шыбы ніводнай —  
На захадзе толькі гараць арабіны.

ЧАКАННЕ

Буслінае гняздо  
Нырнула ў хмары.  
Тры верабейчыкі  
Напераменку чырыкаюць.  
Прыйдзе госця...  
Вячэрні звон  
Растаяў у далонях.  
Ціха.  
Прыйдзе — не прыйдзе...

**********************************************************************

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

## БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

### ЗАКАНЧЭНЬНЕ

Варушыць мінулае нялёгка, але, відаць, патрэбна. Паварушыў і я сваё мінулае, „беластоцкае". Не хацелася яго зачапляць — яно ўсё-ткі пакутнае і я, прызнацца, ня меў на думцы чапляць яго, тым больш, што яно затушавалася ўжо, зацерлася напластаваньнямі пазьнейшага часу. І ўзяўся я адтварыць яго толькі пасьля паўторнай просьбы паважанага рэдактара „Нівы", спадара Лубы. Гэтак во і ўзьнiклі мае беластоцкія ўспаміны, мой „Беластоцкі сшытак". Сваёй згодай напісаць успаміны я ўзяў, магчыма, на сваю душу грэх: мае ўспаміны суб'ектыўныя і могуць выклікаць у каго-небудзь пярэчаньні, а то й няпрыхільнасьць да іхнага аўтара. Вось дзеля чаго я ўхіліўся ад ацэнак і толькі ў некаторых выпадках спрабаваў асэнсаваць свой прадмет. У астатнім-жа я падыходзіў эмацыянальна. Даць нейкую аб'ектыўную ацэнку дзейнасьці Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку падчас Другой сусьветнай вайны — гэта заданьне гісторыка, а не паэта. Ды ўсё-ж я цешу сябе думкай, што чытач на падставе гэтых успамінаў зможа ўявіць хоць у нейкай ступені атмасфэру, адчуць характары людзей, што дзеялі тады. Бо-ж як-бы мы ні ставіліся да дзейнасьці Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, гэта ўсё-такі наша, беларуская гісторыя і падыходзіць да яе трэба менавіта гістарычна.

... Час у Беластоку гарачы. Разам з Ільляшэвічам я толькі што вярнуўся з Другога ўсебеларускага кангрэсу ў Менску. Былі са мной і іншыя „дэлегаты" ад Беласточчыны на той Кангрэс. Быў сонечны, гарачы дзень. Гляджу — шашою паўз Беласток пруць немцы, адступаюць. Паніка пачынае дзеяць. Праца Камітэту заціхае, калі ня спыняецца зусім. Людзі ў момант сталі ня тыя. Ты ўжо ня ведаеш, што ў каго паўме. Канчаецца нават прыязьнь. Ужо не да яе. Ты ўжо бачыш цяпер людзей сапраўднымі. Для кожнага настаў час вырашаць. І кожны вырашае па-свойму. Ільляшэвіч зьбіраецца пакідаць Беласток. Ягоная жонка Надзейка едзе з дзецьмі ў ейныя Тапаляны. А куды мне? Яны ўсе мясцовыя і ім лацьвей. А як мне, прыблуднаму?

У Беласток у міжчасе прыяжджае з Рыгі паэт Алесь Салавей, з якім я інтэнсіўна карэспандаваў, але асабіста быў яшчэ пе знаёмы з ім. Радасьць сустрэчы была азмрочана шалёным пульсам трывожнага часу. Алесь на разьвітаньне падараваў мне з свае рукі гадзіньнік у знак нашага сяброўства. Шкада — той гадзіньнік я згубіў.

Бацька і сястра гавораць: яны нікуды не паедуць, застаюцца, а мне... мне нельга заставацца.

Я іду з бацькам і сястрой у Бацечкі. Там я пакіну іх. На вуліцы ў Беластоку я сустрэў сьвятара, таго самага сьветара, які падчас Божай службы ў беластоцкай царкве строга загадаў мне ўкленчыць як і іншыя вернікі, а не стаяць сярод іх адзінокай тычкай. І я ўкленчыў. Сьвятар падараваў мне на дарогу іконку Божай Маці, з якой, пад Ейнай аховай, вандрую па сёньняшні дзень.

У Бацечках расстаньне з бацькам і сястрой было балючае, нявымоўна чульлівае. Яны яшчэ працавалі некалькі тыдняў у ксяндза, каб пракарміцца, а потым вярнуліся дахаты.

Успамінаючы сёньня пра тое расстаньне назаўсёды — бацьку і сястру я так болей і не пабачыў — не магу стрымаць сябе ад усьведамленьня сваёй віны перад імі, свайго грэху.

Закончу згадкай пра лёс „дзеючых асобаў" у маіх успамінах: Хведар Ільляшэвіч загінуў у аўтамабільнай аварыі ў Нямеччыне, інжынер

( Працяг на стар. 4 )

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

( Працяг са стар. 3 )

Тамашчык, ужо ў якасьці япіскапа Васіля, памёр у Брукліне (належаў да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы), Аляксей Грыцук накінуў свой прысак у Канадзе, Ляля Стаўбунік, паводля чутак, загінула недзе ў Нямеччыне падчас бамбардыроўкі, лёс іншых „дзеючых асобаў” аўтару гэтых успамінаў невядомы.

Сьмерць, канешне — заканамерная зьява, калі яна не гвалтоўная. У беларускіх дзеячоў, нажаль, пераважае хіба сьмерць гвалтоўная. Але памятайма: сваёй сьмерцю яны спрычыніліся да несьмяротнасьці беларускай справы.

1991

# ЖЫВОЕ СЛОВА

У многіх беларускіх народных паданнях, легендах і казках бывае такі матыў: у нейкім месцы здараецца гора, паміраюць людзі і тады нехта адпраўляецца за жывой вадой, каб прынесці паратунак. Знаходзіць крыніцу — і жыватворныя кроплі ўваскрашаюць людзей ад смерці. І нездарма кажуць, што ў казках шмат праўды.

Хочацца расказаць пра чалавека, які на працягу дваццаці пяці гадоў нястомна адсякае беларускую засуху. І не будзе перавелічэннем тое, што яго карпатлівая праца моцна паўплывала на сённяшняе беларускае адраджэнне.

У пачатку шасціДзесятых гадоў студэнтам Тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску быў юнак з Наваградчыны Андрэй Каляда. Пасля заканчэння інстытута стаў артыстам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Аднак, праца тыповым акцёрам яго не задавальняла. Сапраўднае педагагічнае прызванне завяло ў Мінскі педінстытут імя М. Горкага і з часам Андрэй Каляда стаў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры. Менавіта беларуская мастацкая літаратура ёсць невычарпальнай крыніцай „жывой вады”. Нездарма тэатр чытальнікаў, заснаваны Андрэем Калядой у сакавіку 1966 года сярод студэнтаў педінстытута — будучых настаўнікаў, названы „Жывое слова”. З таго часу на працягу 25 гадоў своеасаблівы тэатр чытальнікаў безупынна ўзбагачае беларускую культурную ніву. У тэатра свая адметная манера, якая вызначаецца выконваннем рэдкага сцэнічнага жанру, а менавіта чытальніцкае майстэрства. Задача артыстаў, перш за ўсё, дайсці да сэрца слухачоў праз слова, раскрыць унутранае багацце мастацкай літаратуры, знаходзячы глыбінны сэнс слова. Тут варта прывесці выказванні Андрэя Андрэевіча Каляды — аўтара выдатнай кніжкі „Выразнае чытанне” : „У мастацкіх творах ставяцца і вырашаюцца складаныя жыццёвыя праблемы і філасофскія пытанні, паказваецца лёс асобных людзей і ўсяго грамадства, адлюстроўваюцца значныя гістарычныя падзеі і з’явы, раскрываюцца разнастайныя чалавечыя пачуцці і перажыванні. Мастацкая літаратура валодае неабмежаванымі адукацыйнымі і выхаваўчымі

( Працяг на стар. 5 )

# СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Сямяцічы.*
*Мал. У. Петрука.*

************************************************************************

# НЕ ПЕРАМОГУЦЬ!

**З партфеля Юрыя Бузука**

Вайна была. Людзі падзяліліся. У адной сям’і, бывала, кожны пайшоў іншай дарогай. Адзін сын пісаў да беларускае нямецкае прэсы. Бацька быў вельмі ж беларус (паходзіў дзесьці з-пад Лапаў), але калі немцы прыйшлі, вельмі ж захапіўся „нэмэччынай”. Другі сын зусім не хацеў займацца ніякай палітыкай...

... Было першае спатканне ў Беластоку нямецкае ўлады з камітэтам беларускае арганізацыі. А ў нас дома не было чаго есці, нават аднае бульбіны, нічога. Маці кажа: „Ідзі, Юрка, можа што дадуць, нейкія прадукты?”

А выглядала гэта так: сямейны хор бацюшкі падрыхтаваў песні беларускія, рускія і нямецкія, між іншым, песні Шумана, была і руская „Эй, ухнем!”, і „Лявоніха”. Усяго пакрысе. Гестапаўцы сядзяць, крыху беларусаў, папоўская сям’я спявае. Я ўвайшоў і сеў якраз між фалькcдойчамі. Спяваюць „Эй, ухнем!”, а я крычу па-нямецку: „Яшчэ раз!” Спевакі паўтараюць. Знаёмы шэпча: „Што ты робіш, ціха сядзі!”

Паспявалі крыху, паслухалі. Потым фашысты кажуць: „Мы дарма нічога нікому не даем! Хто як нам прыслужыцца, столькі і атрымае!”

Я вярнуўся дадому, кажу маме, як было. „О не, няма чаго да іх хадзіць, мы не здраднікі!”

А мая мама ўмела ладзіць машыны „Зінгер”. Хадзіла па падбеластоцкіх вёсках, рамантавала швейныя машыны. Так і зарабляла трошкі. Усе гаварылі, што немцы ўжо вайну выйгралі, але мая мама пярэчыла. Чом?

Калі немцы здабылі Беласток, арганізавалі парад. Было вядома, што ўсе атрады, усе палкі будуць дэфіляваць па Рынку Касцюшкі. Мама ўзяла карамыслы, парожнія вёдры і прайшлася перад тымі пераможнымі сцягамі. Хутка яе злавілі, хацелі расстраляць: „Ты руская ведзьма!” А ў мамы былі ўжо сівыя валасы. Якасьці растлумачыла, што „кайнэ васэр”, водаправода няма. Падыйшлі ўжо фашысты пад Сталінград, а яна ўсім гаворыць: „Пагібнуць фашысты, я перад іх палкавымі сцягамі з пустымі карамысламі дэфілявала! Бажусь, так ім і будзе!” І ўсе вёскі — і Бацечкі, і Хвасты, і Парослы — усе ведалі, што Алеся даўно ўжо прадказала: „Пагібнуць фашысты.”

Як бачым, мая мама мела вялікую заслугу ў перамозе над фашызмам і падтрыманні духа ў беларусах.

**Запісала Міра Лукша**

************************************************************************

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

**ІІ. Максім Багдановіч аб Беларусі**

Для Максіма Багдановіча Купала — першы беларускі паэт, паводле багацця і разнастайнасці мовы. „Ні ў жаднаго нашага паэта няма такога багатага слаўара, як у Купалы”, — пісаў ён, падкрэсліваў нястомнае моўнае эксперыментатарства Купалы. Багацце і разнастайнасць яго мовы Багдановіч выводзіць з асаблівых якасцей Купалы-паэта, з „усёй моцы жыццёвых сокаў яго таленту”, з яго здатнасці „да ўсестаронняга развіцця”. Але аб супадзенні іх творчых пазіцый і поглядаў гаварыць нельга. Багдановіч шмат чаго не прымаў у стылістыцы і мове Купалы, што таксама відаць з ягоных артыкулаў. Мы знаходзім нямала знакаў нязгоды з Купалам, палемікі з ім, нават аднаўлення некаторых асаблівасцей і рыс яго паэтычнай сістэмы. Ва ўсякім разе няма ў гэтых артыкулах таго, што можна назваць піетэтам ці нават удзячнасцю маладзейшага: часам здаецца, што пісаў іх якраз старэйшы, у крайнім выпадку роўны. І хай не з усім са сказанага Багдановічам пра Купалу можна пагадзіцца, не ўсё аб’ектыўна характарызуе Купалу — затое яно характарызуе самога Багдановіча, яго ўласныя творчыя прынцыпы і прыхільнасці, якімі ён іменна і кіраваўся, разглядаючы творы старэйшага паэта.

Крытыку Багдановіча некаторыя з нейкай асцярожнасцю і паблажлівасцю тлумачаць асобнымі слабасцямі яго як паэта, вузкасцю яго літаратурных поглядаў. Вось як гэта выглядае ў Алега Лойкі, які, дарэчы, шмат зрабіў для вывучэння і папулярызацыі Багдановіча. Даследчык лічыць, што ў непрыняцці Багдановічам такога выражэння Купалы, як „спалі вас, песні, дым чырвоны”, „выразілася слабасць Багдановіча-крытыка”, бо ён не ўспрыняў рамантычнай цягі Купалы да ўзвышаных дум і пачуццяў, да незвычайнага выражэння іх у словах, што ў сваёй канкрэтнасці, падобна да „чырвонага дыму”, рэальна не мысліцца, але „рэальнае пачуццё нянавісці і любві перадаюць з вялікай экспрэсіўнай сілай”. Далей Лойка піша, і таксама ў сувязі з крытычнымі заўвагамі Багдановіча пра „вузкае разуменне рэалізму як творчага метаду, звязанага нібыта толькі з формай рэалістычна-канкрэтнага паказу жыцця”.

Крытычныя разважанні Багдановіча не даюць падстаў для такіх шырокіх і, галоўнае, нават несправядлівых высноваў. Багдановіч „не ўспрыняў рамантычнай цягі Купалы да ўзвышаных дум і пачуццяў”. У тым самым артыкуле „Глыбы і слаі” Багдановіч некалькі разоў з сімпатыяй піша пра „звычнасць” Купалавых вершаў „поўных пачуцця”. Нават у лісце ў „Нашу ніву” ад 1 жніўня 1912 г. ён пісаў пра Купалу: „...Вось пра каго можна сказаць, што ён грае на „лире громкозвучной”.

І яшчэ адно сцверджэнне А. Лойкі: „Багдановіч падзяляў вузкае разуменне рэалізму як творчага метаду”. Наўрад ці можам гэтак катэгарычна, без аргументаў, рабіць такія шырокія вывады адносна метаду Багдановіча. Цяжка пагадзіцца з даследчыкам, калі ён „прывязвае” да рэалістычна-канкрэтнага метаду аўтара фантастычнай нізкі „У зачараваным царстве” ці паэмы „Страцім лебедзь”, паэта, які вышэйшымі дасягненнямі мастацкага генія лічыў такіх паэтаў, як Дантэ і Шэкспір.

Шмат увагі ўдзяліў Багдановіч творчасці Якуба Коласа. Крытык у сваіх літаратурных аглядах

# СЭРЦА БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Калі ехаць па шашы ў Белавежу, відаць вялікі валун на падмурку, які знаходзіцца на левым баку дарогі, больш-менш насупраць бензінцай станцыі. Ён вызначае геаметрычны цэнтр уласцівай Белавежскай пушчы. Цэнтр цэлага ляснога масіву пушчы /трэба ведаць, што зараз у яго ўваходзяць таксама пушчы Лядская, Шэрашоўская і Свіслацкая/ выпадае непадалёку вусця рэчкі Лутоўня ў Гараўку, ля Старой Белавежы.

Валун сцягнулі з перадполля Белавежскай пушчы ў 1968 г. Ініцыятарам вызначэння цэнтра было Таварыства прыяцеляў Белавежы. Дарэчы, быў гэта перыяд, калі Таварыства праяўляла магутную, шырокую дзейнасць. З часам яно пачало „вянуць", а пасля надышла клінічная смерць. Зласліўцы кажуць, што з-за недахопу сапраўдных прыяцеляў мястэчка Таварыства практычна не існуе, але сляды яго дзейнасці асталіся!

**П.Байко**

*Фота аўтара*



# НАШЫ КАРАНІ

## XVI. У ГАРАДЗЕНСКІМ КНЯСТВЕ

Калі ў паўднёвай частцы сённяшняга Падляшша самымі вялікімі цэнтрамі праваслаўнага рэлігійнага жыцця былі Драгічын, Бярэсце, Мельнік, Бельск, то для праваслаўных паўночнай яго часткі духоўнай сталіцай была старажытная Гародня (сённяшняе Гродна), важную ролю адыгрывалі таксама Ваўкавыск, Свіслач, Мсцібогаў (сённяшняе Мсцібава), затым Гарадок-на-Супраслі і іншыя асяродкі Гарадзенскага княства.

Гарадзенскае княства паўстала на пераломе IX-X стагоддзяў, значыць, каля 1100 гадоў таму назад, на паўночна-заходняй ускраіне беларускіх земляў. Яго заходнія граніцы абапіраліся на рэкі Нарву і Бобру (сённяшнюю Бебжу). У раннім сярэднявеччы Гарадзенскае княства і ягоная сталіца Гародня былі важкім вайсковым, гаспадарчым і культурным цэнтрам. Магутны водны шлях па Нёману і яго прытоках з глыбінь земляў беларускіх плямёнаў дрыгавічоў і крывічоў вёў у Балтыйскае мора, а волокамі ў прытокі Дняпра кіраваўся ў Чорнае мора. У старажытнай Гародні, падобна як у суседнім Дарагічыне, водны шлях крыжаваўся з рухлівым старадаўнім трактам з Заходняе ва Усходнюю Еўропу і ў Сярэднюю Азію. Гарадзенскае княства знаходзілася пад моцным уздзеяннем, а затым і пад уладай магутнага Полацкага княства. Хрыстова вучэнне пранікала да гарадзенцаў у тым самым часе, як і да палачанаў. Вялікую ролю ў пашырэнні хрысціянства ў Гарадзенскім княстве адыгралі пасланнікі, місіянеры, якіх кіравалі сюды славутая княгіня Рагнеда-Анастасія, яе сын, князь полацкі Ізяслаў, а таксама Рагнедзін унук, князь полацкі Брачыслаў Ізяслававіч. Пры іх паўсталі першыя цэрквы ў Гародні, Ваўкавыску, Свіслачы і іншых мясцовасцях.

Як усюды, гэтак жа і на Гарадзеншчыне, першымі прымалі хрышчэнне княжацкая сям'я і яе прыбліжаныя, затым княжацкія вoі, розныя службоўцы і паступова купцы, урэшце рамеснікі і сяляне. Гэтак навука Хрыстова ахоплівала ўсё шырэйшыя колы грамадства, пранікала ў глыб народу і паволі станавілася падставай паводзінаў людзей у штодзённым жыцці, у поглядах на акружаючы іх свет, у разуменні імі сэнсу чалавечага жыцця і існавання ўсяго свету. Аднак, гэта адбывалася паволі, паступова, у цяжкім і працяглым пераадольванні язычаскіх вераванняў, абрадаў, звычак. Калі іншыя веравызнанні часта заганялі іншаверцаў у сваю веру агнём і мячом, крывава распраўляліся з супраціўнымі і нежадаючымі, то Праваслаўная Царква заўсёды і ўсюды дзейнічала толькі мірнымі метадамі: спакойнай пропаведдзю, цярплівым тлумачэннем вучэння Хрыста, пераконваннем словамі і прыкладамі, ураўнаважанымі дыспутамі і развагамі, узорнымі паводзінамі прапаведнікаў у іхнім штодзённым жыцці і ў адносінах да іншых людзей. Таму праваслаўная вера, хоць паволі, паступова, але затое трывала ўкаранялася на беларускіх і суседніх неславянскіх землях, а таксама на заходняй частцы Гарадзенскага княства, якая сёння складае паўночна-ўсходнюю частку Беласточчыны. Не было тут народных выступленняў супраць хрысціянства, знішчэння храмаў, крывавых расправаў з праваслаўным духавенствам, як тое дзеялася з каталіцкімі духоўнымі ў суседнім Мазоўшы.

Варта ведаць, што з Гародні праваслаўныя місіі кіраваліся на поўнач і захад да балцкіх плямёнаў аўкштотаў, яцвягаў, бортаў і з усё лепшымі вынікамі пашыралі сярод іх Хрыстовую навуку.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ЖЫВОЕ СЛОВА

( Працяг са стар. 4 )

магчымасцямі, здольна аказаць вялікі ўплыў на развіццё інтэлекту і культуры пачуццяў...".

Як відаць, чытальніцкі тэатр „Жывое слова" ёсць не толькі формай мастацтва, але адначасова з'яўляецца карысным працэсам адукацыі і выхавання будучых педагогаў. Спецыфіка тэатра і ў тым, што склад артыстаў пастаянна змяняецца, паколькі яго члены студэнты, якія, закончыўшы вучобу, раз'язджаюцца па ўсёй Беларусі і працуюць настаўнікамі, рассяваючы прыгажосць жывога беларускага слова.

Традыцыі мастацкага чытання на Беларусі даўнія і багатыя. У мінулым беларуская зямля славілася апавядальнікамі, казачнікамі, кра-самоўцамі. Вандравалі па ёй гусляры, песняры, скамарохі... У XIX і пачатку XX стагоддзя вялікую ролю ў беларускім адраджэнні мела жывое роднае слова, якое прапагандавалася на вечарынах, ярмарках, народных святах, было асноўным у вандроўных тэатрах Ігната Буйніцкага і Уладзіслава Галубка. Тэатр „Жывое слова" пад апекай А. А. Каляды верны беларускім традыцыям. За 25 гадоў аб'ездзіў бадай што ўсю Беларусь і не толькі. За межамі сваёй рэспублікі бачылі і слухалі іх у Ленінградзе, Варкуце, Маскве, Валгаградзе, Палтаве, Кіеве, Львове і на Беласточчыне. У нас „Жывое слова" гасцявала ў снежні мінулага года. Сваё майстэрства яно паказала ў Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гай-наўцы.

У рэпертуары „Жывога слова" былі такія пастаноўкі: „Ефрасіння Полацкая", „Кастусь Каліноўскі", „Помнім боль твой і страты твае, Беларусь", „Песня сярод чумы" /пра Міколу Гусоўскага/ — гэты спектакль быў паказаны на Беласточчыне. Апрача т.зв. сур'ёзных пастановак, „жываслоўцы" заўсёды маюць для гледачоў многа займальных сцэнічных мініяцюр і песень. Гэта вечна малады тэатр, у якім выступаюць прыгожыя і вясёлыя дзяўчаты ды прыстойныя і бадзёрыя хлопцы.

У канцы сакавіка г.г. у Мінску прайшоў юбілейны вечар „Жывога слова". Пасля 25 гадоў са сваім тэатрам развітаўся Андрэй Андрэевіч Каляда, які цяпер стаў прарэктарам /другім чалавекам/ у Тэатральна-мастацкім інстытуце /цяпер Акадэмія мастацтваў у Мінску/. На ўрачысты вечар з'ехаліся „жываслоўцы" ўсіх пакаленняў з розных куткоў Беларусі. Прыбылі сябры і паклоннікі. З прыемнасцю заяўляю, што і бельскі „Парнас" там гасцяваў. Шчыра прызнаўшыся, дык не маглі мы заімпанаваць сваім сцэнічным майстэрствам, але многае ўбачылі і нечаму падвучыліся. Асабіста мне спадабалася сямейная сустрэча акцёраў „Жывога слова" розных пакаленняў. Многія з іх сардэчна ўспаміналі маладыя гады, праведзеныя ў „Жывым слове" вясёла, цікава і вельмі карысна. Больш дзесятка пар з „Жывога слова" сталі жонкай і мужам. Адна з іх — Лена і Юрка Чарэнка — пераанялі эстафету ад „бацькі" тэатра Андрэя Андрэевіча Каляды.

Пад новым кіраўніцтвам „Жывое слова" прыехала зноў на Беласточчыну. На гэты раз маладыя артысты з Мінска вандруюць па трасе: Трасцянка /26 жніўня — панядзелак/ — Пухлы /27 жніўня — аўторак/ — Цялушкі /28 жніўня — серада/ — Канюкі /29 жніўня — чацвер/ — Рыбалы /30 жніўня — пятніца/, дзе выступаюць са сваёй мастацкай праграмай. Але аб тым наступным разам.

**ЯН МОРДАНЬ**

****************************************************************

прааналізаваў дарэвалюцыйныя вершы і апавяданні паэта. Разглядаючы зборнік „Песні жальбы" і вершы, раскіданыя ў перыядычных выданнях, Багдановіч пісаў: „...бедныя абразы роднага краю, доля нашага народа, турэмныя думкі і жыццё — вось, здаецца, і ўсе тэмы яго твораў". Ён у адносінах да коласаўскай творчасці крытык суровы. Не падабаюцца яму таксама мастацка-выяўленчыя сродкі паэта: „...як артыст-маляр Колас не стаіць вельмі высока, і не ў пекнасці формы, мовы ці малюнку хаваецца цэннасць яго вершаў, але ў праўдзівай — далёкай ад усякай фальшы — любві да бацькаўшчыны". Больш грунтоўныя абмеркаванні творчасці паэта знойдзем у іншых артыкулах крытыка. У іх заўважаецца задавальненне Багдановіча павышэннем мастацкай вобразнасці паэзіі Коласа.

У далейшым крытык даволі павярхоўна робіць агляд творчасці іншых пісьменнікаў: Альберта Паўловіча, Алеся Гаруна, Каруся Каганца, Ядвігіна Ш. Надзвычай сціплыя яго выказванні на тэму сваёй паэтычнай дзейнасці. Перш за ўсё, кладзе націск на маляўнічасць і вобразнасць сваёй паэзіі. Адзначае таксама сваю заслугу ў пашырэнні круга тэм.

Звяртаў Багдановіч увагу не толькі на багацце тэматыкі, але і на жанравую і стылявую разнастайнасць. З гэтай мэтай ён не толькі сам ужываў у сваёй практыцы самыя розныя жанры, але распрацоўваў гэтае пытанне і ў артыкулах. У 1911 г. піша спецыяльны тэарэтычна-гістарычны нарыс аб жанры санета („Санет").

Чарговым, больш аптымістычным, артыкулам-аглядам беларускай пісьменнасці з'яўляецца праца „За тры гады". У ёй, як ужо сам загаловак паказвае, Багдановіч ацэньвае ўзровень літаратурнай дзейнасці за апошнія гады. Аналізуючы творчасць Янкі Купалы, Багдановіч прыходзіць да вываду, што паэт усё шырэй і глыбей развівае свой паэтычны талент. Калі „Жалейка" заслугоўвала ўвагі чытача выразна грамадскім напрамкам, ад „Гусляра" — павеяла „смеласцю, жыццёвай сілай і пагардай", то зборнік „Шлях жыцця" Багдановіч сустрэў такой характарыстыкай: „З радасцю бачым, што талент Купалы развіваецца, з'яўляюцца новыя мэты, новыя спосабы творчасці, новыя формы і вобразы. Не толькі нядоля нашай вёскі ды нацыянальныя справы Беларушчыны цікавяць яго".

Шмат увагі Багдановіч удзяліў творчасці Якуба Коласа. Пры надзвычайнай зацікаўленасці і захапленні першым раздзелам будучай „Новай зямлі" ён вось такімі словамі апісвае паэта: „Другі выдатны паэт Я. Колас, пісьменнік спакойны, прosты і ўсюды сабе роўны; заўсёды можна быць запэўненым у вартасці яго твораў. Няма ў яго чаго-небудзь вельмі моцнага, яркага, неспадзяванага, але няма і слабага, нікчэмнага. Не ўзбіраючыся дужа высока, ён затое ніколі не зрываўся і не падаў".

Пасля вельмі прыхільнай ацэнкі творчасці такіх пісьменнікаў, як Ядвігін Ш., Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, крытык з радасцю адзначае поспехі беларускай літаратуры: выпрацоўку літаратурнай мовы, з'яўленне арыгінальных, цікавых паэтаў, ад якіх можна шмат чаго спадзявацца; і тое, што літаратура пачынае ўжо не толькі нашаму народу, але і сусветнай культуры несці „свой дар".

(Працяг будзе)

**ЯНІНА ТРАЧУК**



# НА ЎСХОД АД ПАЛІТЫКІ

*********************

( Працяг са стар. 1 )

навізны, а сама канцэпцыя не найлепш выглядае на практыцы. Паказваюць на гэта хаця б не найлепшыя, насуперак намаганняў польскіх улад, адносіны з усімі суседнімі рэспублікамі.

*— У такім выпадку, якія цэнтры дзяржаўнай адміністрацыі створаны займацца ўсходняй палітыкай і адказваюць за яе брак?*

— Менавіта ўсе. У першую чаргу ўрад і Міністэрства замежных спраў /МЗС/. Далей Міністэрства гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай /МГСЗ/ і Міністэрства фінансаў, якія не заўсёды пагаджаюцца з дзейнасцю МЗС і наадварот. МГСЗ націскае на большую гібкасць у палітычных пытаннях з мэтай нармалізаваць гаспадарчыя адносіны, МЗС, аднак, рашуча прэферуе выключна палітычныя пытанні.

Гаворачы аб польска-савецкіх адносінах, нельга забыць і аб абедзвюх палатах парламента, прадстаўнікі якіх маюць намнога большую свабоду дзеянняў і выказванняў, чым працаўнікі выканаўчых органаў. Менавіта парламент займаецца зараз сувязямі з паасобнымі рэспублікамі. Нядаўна адбыліся дзве міжпарламенцкія сустрэчы: у Пунску з літоўцамі і ў Калінінградзе з Расійскай Федэрацыяй.

Вельмі важным цэнтрам, прадвызначаным займацца ўсходняй палітыкай, з'яўляецца таксама Прэзідэнцкая Канцылярыя, як і сам Прэзідэнт. Асоба Леха Валэнсы і яго палітыка выключна ўважна назіраюцца ў Маскве і адбіраюцца, як дагэтуль, вельмі цёпла.

*— Адкуль у такім выпадку адтэрміноўка візіту Прэзідэнта ў Маскву? Меў жа ён адбыцца ўжо ў чэрвені.*

— Думаю, што вінаваты гэтаму перш за ўсё тупік, у якім апынуліся польска-савецкія перагаворы як у справе выводу савецкіх войск з Польшчы, так і ў справе двухбаковага трактату, ці ўрэшце застой ў гаспадарчых перамовах. Прэзідэнт, як мяркую, свядомы таго, што яго візіт у Маскву павінен быць гістарычным візітам. У іншым выпадку будзе ён не толькі бессэнсоўным, але можа проста пагоршыць сітуацыю. Валэнса ўжо неаднойчы выказаў сваю волю ўрэгуляваць адносіны з Масквой, і думаю, што ў справах усходняй палітыкі не сказаў свайго апошняга слова.

*— Набліжаюцца выбары, ці няясныя адносіны з Савецкім Саюзам могуць стаць козырам у выбарчай кампаніі?*

— Разглядаючы палітычныя цэнтры, я прапусціў адзін чыннік, гэта значыць палітычныя партыі, значэнне якіх пастаянна ўзрастае.

**( Працяг на стар. 7 )**



# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

## 21.СПАДАР АНТОН ШУКЕЛАЙЦЬ, ДУША НЬЮ-ЙОРКСКІХ БЕЛАРУСАЎ.



Кожны ў „нашым" Нью-Йорку скажа, што душа тутэйшых беларусаў гэта спадар Антон Шукелайць. Так дазваляе ён пісаць сваё прозвішча, хаця па-сапраўднаму гучыць яно: Шукелойць (з латышскай, здаецца). Спадар Антон збеларушчвае яго ў сваім асяроддзі.

Жыве ў самым цэнтры Нью-Йорка, на Манхатане, зусім блізка ад Данчыка, а яшчэ бліжэй ад яго бацькоў — на 3-яй стрыт між 1-ай і 2-ой авеню. Адсюль і прыязнь незвычайная — спадар Антон так часта бывае ў спадарства Андрусішыных, што лічыцца ўжо амаль членам іх сям'і.

Жыве самотна ў адным невялікім пакойчыку. Кажуць, ніхто ніколі ў яго не быў, але ж вось ведаюць людзі, што ўсё там завалена кніжкамі і паперамі.




*Півярня „Мак-Сорлейс", паштоўка.*

Спадар Антон Шукелайць — старшыня Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Амерыцы, так званага БАЗА, і, здаецца, ніводная праява беларускай дзейнасці ў Амерыцы не адбываецца без яго большага ці меншага ўдзелу. Пільна сочыць ён за падзеямі, што адбываюцца на Беларусі. Сэрцам застаўся там, між родных палёў і лугоў, перапоўненых пахамі юнацтва.

Спадар Антон, нягледзячы на ўсё, — чалавек надзвычай скромны і пра свой юбілей не сказаў. Але ўсё ж нехта (здаецца, рэдактар Янка Запруднік) успомніў, што ў дзевяностым годзе спадару Шукелайцю спаўняецца семдзесят пяць гадоў. На свае гады высокі і прыстойны дзядзька Антон выглядае надта ж бадзёра! Ну, бо і як тут старэць, калі чалавек штораз камусьці патрэбны?!

У неспакойныя часы сваёй маладосці, яшчэ дома, быў добрым беларускім этнографам, працаваў у часы акупацыі ў Мінску у музеі. У новай айчыне, куды вымушаны быў

************************************************************

# ПЕРШАЯ ПЕРСАНАЛЬНАЯ

На пачатку ліпеня, перад выездам на пару дзён у Белавежу, я запланаваў абавязкова наведаць майстэрню Тамары Тарасевіч, той мастачкі, якая — нікому дагэтуль невядомая — раптам уварвалася ў мастацкі свет са сваімі жывапіснымі малюнкамі як незвычайны, самародны феномен. Тамара закончыла школу медсясцёр. Але ёй ад маленства, як сама гаворыць, хацелася маляваць. І яна ціхенька, для адной сябе, займалася ў вольным часе гэтым як бы нікому непатрэбным заняткам. Асеўшы ў Белавежы, апавядае яна мне, штораз мацней адчувала патрэбу прысесці ля мальберта. Двое дзяцей, муж, новабудаваны дом — усё цяпер станавілася менш істотным. Імператыў малявання завалодваў яе жыццём. І вось на працягу трох апошніх гадоў, калі яна пачала аддавацца малюнку, з-пад яе пэндзля нейкім імпэтам выйшла звыш ста шасцідзесяці вялікіх па памеры карцін.

Паўтараецца старая як свет ісціна: калі ў чалавека праўдзівы талент, то ніхто і нішто не зможа яго ўтаймаваць — ён прабіваецца на свет насуперак усім перашкодам. І расце арганічна, як дрэва, разрастаючыся для самога сябе, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е.

Тыя карціны, якія Тамара Тарасевіч паказала мне тады ў сваёй хаце ў Белавежы, заварожвалі перш за ўсё, у промнях заходзячага сонца, фантастычнай шматколернасцю белавежскай прыроды — ляснай гушчарэвіны, раслiннага каралеўства. Набрынялае сокамі, вільгаццю, цяплом, магутнае і здаровае ў сваіх глыбінных кшталтах, прасвятленае, напоўненае жыццёстваральнымі нябачнымі сіламі. Чалавек, звер ці птушка, калі сям-там паяўляюцца, выглядаюць нязначнай часцінай аграмаднага прыроднага свету.

Тамара гаворыць, што яна любіць простую, навакольную прыроду — звычайны белавежскі пейзаж. Але моцаю свайго творчага ўяўлення яна ўмее ўвайсці ў гэты пейзаж і паказаць яго знутры, умее выявіць пры дапамозе колераў і светацяняў непаўторны клімат і дух жывой прыроды. Дзякуючы яе таленту, нібы даўно нам знаёмыя, абжытыя і абцёртыя лясныя краявіды адкрываюць зноў сваю прыгажосць, свежасць і вее ад іх вечнай таямніцай, перад якой чалавек стае заўсёды з адкрытым ротам здзіўлення.

Працуе над карцінай Тамара лёгка і хутка. Маляванне не мучыць яе. Некаторыя яе творы ўжо закуплены заходнімі турыстамі, якія абы-чаго не хочуць вешаць у сваіх катэджах. Пару карцін Тамара паказала /разам з іншымі мастакамі/ на выстаўцы ў Белавежскім цэнтры культуры.

У чацвер, 15 жніўня, у цеханавецкім Музеі сельскай гаспадаркі /Muzeum Rolnictwa im. K. Kluka/, была адкрыта



*Сп. Антон Шукелайць ( злева ) у размове з прафесарам Адамам Мальдзісам з Мінска.*

падацца, шмат гадоў быў на пасадзе звычайнага рабочага ў нейкай фірме з вопраткай. На працу ў радыё не пайшоў, хаця прапанавалі яму не адзін раз. А цяпер вось дапамагае Янку Запрудніку збіраць інфармацыі для радыё „Свабода” і газеты „Беларус”. Піша таксама. Да сёння не можа даравацъ немцам, што спаялілі Беларусь... А колькі беларусаў ад іх загінула, кажа ў задуменні...

Ужо спадар Шукелайць на пенсіі. Пенсіі ўсяго 900 долараў, што на амерыканскія ўмовы сума невялікая, хаця 100 долараў хапае на яду для аднаго чалавека. „Мне мала трэба,— пераконвае мяне спадар Антон у тым, што грошай яму хапае, — а рэшта — калі госці прыязджаюць, то маю.” Вочы дзядзькі Антона цяплеюць.

І сапраўды, ён шастае сваімі пенсійнымі доларамі, гасцям не шкадуе: то кафэ, то півярня, то білеты туды-сюды, а перш за ўсё на метро і на аўтобус.

Спадар Шукелайць, які большы кавалак жыцця правёў на Манхатане, — гэта ходзячая энцыклапедыя Нью-Йорка. Вельмі цешыцца сустрэчам з землякамі — тады ніхто не заступіць яго як экскурсавода! І заўсёды вядзе гасцей у сваю любімую, найстарэйшую ў Нью-Йорку півярню „Мак-Сорлейс”, заснаваную яшчэ ў 1854 годзе. Кіславаты арамат піва і староцця навокал ствараюць тут асаблівы мікраклімат... Півярня знаходзіцца зусім недалёка ад дома спадара Шукелайця, і ён, калі вядзе мяне туды, ледзь паспявае кланяцца прахожым, якія здалёк пазнаюць яго.

І вось мы ўжо сядзім на лавачцы ля Лінкольн-цэнтра на Манхатане. У верасьнёвым спакоі 1990 года акамянелі тры манументы: славутая Метраполітэн-опера, з левага боку ад яе — Гарадская опера, дзе прэзентуецца больш сучасная оперная музыка, і справа Філармонія. Праз пару дзён тут будзе ройна ад людзей — у Метраполітэн-оперы пачынаецца музычны сезон, з'едзецца мноства аматараў і знаўцаў музыкі (а білет на адзін інаўгурацыйны спектакль, заўважае спадар Антон, каштуе 1000 долараў).

Гутарым няспешна — тэмы накідае дзядзька Антон. Ён у сваёй стыхіі. Нягледзячы на супольныя славянскія канцэрты, якія адбываюцца штогод, расказвае ён, славяне ў Амерыцы наогул разрозненыя. Сварацца, напрыклад, за македонцаў (яны маюць тут добры ансамбль) — балгары хацелі б іх мець за сваіх, а яны ж лічацца югаславянамі. Ціта зрабіў іму Югаславіі рэспубліку, а іх трэба было б далучыць да Балгарыі...

Вельмі сварацца чэхі са славакамі, а найгорш харваты з сваімі пабрацімцамі з Югаславіі. Славенцы — з усіх славянаў найкультурнейшы народ.

Усе славяне дзейнічаюць у славянскай арганізацыі. Трэба сказаць, што рускія, палякі, беларусы і ўкраінцы вельмі тут дружаць на культурнай ніве. Але рускія наогул дзейнічаюць слаба. У нью-йоркскіх расейцаў быў хор данскіх казакоў пад упраўленнем Жарава. Памёр ён — і хор разваліўся.

— Нашто ім старацца, яны ж і так вялікая, прызнаная нацыя, — кідаю нясмела, каб хаця не перарваць думкі спадара Шукелайця, — гэта мы мусім увесь час даказваць, што існуем.

Пра сябе гэты чалавек гаварыць не ўмее. Толькі часам можна выціснуць з яго некалькі слоў. Цешыцца, што Данчык будзе выступаць на славянскім канцэрце ў Філармоніі. Цешыцца так, як можна цешыцца толькі за сваё дзіця.

А вось Туронкава малодшая якая здольная! Ездзіла з аркестрам па ўсёй Амерыцы і прыігрывала Егудзі Менухіну (ведаю, што Ганя Туронак працуе ў варшаўскім аркестры „Symfonia Varsovia” і часта выступае за граніцай).

Са старэйшай дачкой Туронкаў — Наталляй, якая лётае на міжнародных лініях сцюардэсай, спадар Антон заўсёды ходзіць на лянч у Нью-Йорку.

Хаця сваіх дзяцей ён не мае, шчыра цешыцца поспехамі дзяцей іншых беларусаў, якія ў свеце не апошнія. Сам ніколі не ажаніўся, калі агледзеўся, кажа, усіх сваіх дзяўчат ужо разабралі... А з амерыканкай жаніцца не збіраўся.

*(Працяг будзе.)*

**АДА ЧАЧУГА**

**Фота аўтара**

***

яе першая персанальная выстава, на якой Тамара Тарасевіч паказвае 55 сваіх жывапісных прац. Выстава гэта наладжана чалавекам вялікага сэрца, улюбёнага ў культуру, спагадлівага мецэната мастацтва, дырэктарам успомненага Музея спадаром Казімежам Ушынскім. Дырэктар К. Ушынскі, даведаўшыся аб творчасці Тамары і яе клопатах з выхадам да людзей, ні на хвіліну не завагаўся адчыніць мастачцы дзве абшырныя выставачныя залы. Свет не без добрых людзей!

Варта адзначыць, што камісарам гэтай першай выставы Тамары Тарасевіч з'яўляецца працаўнік Міністэрства культуры і мастацтва, гісторык мастацтваў Мар'ян Паздзёр. На адкрыцці прысутнічала шмат люду і што найважнейшае многа мастакоў з Беластока і Варшавы, якія штолета маюць у Цеханоўцы свае пленэры. За круглым сталом, пры чарцы віна і шклянцы гарбаты, калегі вельмі сардэчна, прыязна выказваліся аб творчых дасягненнях белавежскай мастачкі, жадаючы ёй далейшых поспехаў у фармаванні свайго арыгінальнага стылю.

У міжчасе творы класічнай музыкі іграў на скрыпцы адораны геніяльным слыхам вучань адной з варшаўскіх музычных школ Бартламей Буліч.

**ЯН ЧЫКВІН**



# НА ЎСХОД АД ПАЛІТЫКІ

*********************

**( Працяг са стар. 6 )**

Гляджу на гэта з бояззю, бо ўсё паказвае на тое, што многія партыі або кааліцыі захочуць выкарыстаць усходнюю палітыку як перадвыбарчы аргумент. Замежная палітыка гэта вельмі далікатная матэрыя і ў цывілізаваных краінах адсоўваюць яе на бок, або вогуле абыходзяць яе ў выбарчай кампаніі. Калі не ўдасца нам дабіцца гэтага, кампанія можа быць праведзена пад антысавецкімі лозунгамі, што прычыніць шкоду на доўгія гады.

*— Ці сапраўды антысавецкія лозунгі, якія страцілі, аднак, сваю выразнасць, з'яўляюцца яшчэ палітычнымі носьбітамі?*

— Ужо перад выбарамі ў самаўрады з'явіліся розныя заявы паасобных дзеячоў — разглядалася тады справа транзіту савецкіх войскаў, якія выводзілі з былой ГДР, — што пабудуюць на тэрыторыі сваёй гміны барыкады, каб не прапусціць агідных саветаў. Баюся, што падобны тон можа мець кампанія зараз. Псіхалагічная база для дзеянняў тыпу маляванне помнікаў, абкідванне консульстваў гамагенізаваным тварагом, перайменаванні і т.п. далей дастаткова моцная. Усе мы выхаваны ў антырасійскай традыцыі, на этасе войнаў і паўстанняў, у якіх галоўным палітычным элементам была антыпатыя да ўсяго, што расійскае. Магчыма і тое, што чарговы раз выплывуць нашыя айчынныя імперыялісты, якія зноў будуць уваскрашаць лозунгі аб вяртанні Вільні і Львова, што будзе без захаплення прынята літоўцамі ці ўкраінцамі. А нашы ўсходнія суседзі вельмі ўважна сочаць за нашым друкам — таксама і мясцовым.

Бясспрэчна, галоўным палітычным партнёрам надалей будзе цэнтр, бо ўсё паказвае на тое, што нейкая форма Саюза будзе існаваць і ў будучым. Але гаспадарчым партнёрам стануць напэўна рэспублікі. Думаю, што як у адным, так і ў другім выпадку трэба нам паклаcці многа намаганняў, каб быць для нашых усходніх суседзяў цікавым партнёрам. Думаю, што, напрыклад, людзі, адказныя за тое, што сёння ў маскоўскіх кіёсках няма польскіх газет, калі свабодна можна ў іх купіць „Newsweek” , „Time” ці „Observer”, учынілі злачынства ў адносінах да польскага дзяржаўнага інтарэсу. Марнуем мы аграмадны капітал сімпатыі і зацікаўлення.

**Гутарыла**

**НАТАША БРЫЖКО**



*Алтар цэркаўкі Міхаіла Арханела ў Войшках* *Фота А. Цюлькіна*

Каплічку ў Войшках паставіў у 1865 годзе граф Міхаіл Мураўёў (так, той самы). Гэтая „добродетель" абышлася графу ў 500 рублёў. Каплічку пасвяцілі Архангелу Міхаілу.

Улюбёны ў гісторыю свайго краю айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў паказвае мне „заметки" аднаго расейскага падарожніка, які ў палове XIX ст. праязджаў праз Войшкі. Войшкі на той час ляжалі на паштовым тракце Беласток-Бельск. Вёска надзвычай бедная, адзначае той расеец, людзі кормяць і сябе і жывіну бульбаю, бульбаю гандлююць з яўрэямі-арандатарамі карчмаў, якія робяць з яе гарэлку і распіваюць той жа народ. А народ выпівае моцна.

Сённяшняя шаша Беласток-Бельск была пракладзена ў 1916 годзе — яна пайшла праз Рыбалы, Войшкі засталіся „збоку". І прыход быў у Рыбалах.

У 1980-81 г.г. людзі з Войшкаў дабудавалі да каплічкі невялікае памяшканне — атрымалася „цэркаўка", у якой папярэдняя каплічка стала алтаром.

— Час тады быў вельмі добры, — кажа мне Уладзімір Васілеўскі з Войшкаў. — Якраз тады рабілася „Салідарнасць", завіруха была такая, што можна было гэтую інвестыцыю зрабіць без плана. Ну, то людзі арганізаваліся, хто слуп прынёс, хто што іншае, і паставілі...

Відаць, што ставілі наспех і з вялікім энтузіязмам, бо й фундаменту добрага не зрабілі — зараз сцены тае дабудоўкі ўжо сям-там папалі.

— Каплічка мае вартасць як помнік даўніны, — кажа У. Васілеўскі, — паставілі яе калісь-калісь, тут яшчэ і дзяржава павінна нам дапамагчы ў нашай разбудове...

Ой, наўрад ці гэтая дзяржава будзе дапамагаць у разбудове аб'екту, які паставіў Мураўёў. Лепш ужо самім рабіць, паціху, не ўпамінаючы імя таго фундатара...

— А багаслужбы, як часта яны тут праводзяцца?

— У кожную першую нядзелю ў месяцы, а потым яшчэ вясковы абход, Провады пасля Вялікадня, ну і на




Міхала, патрона цэркаўкі.

Людзі прыйшлі да вываду, што і ў разбудаваным аб'екце месца малавата. І ў гэтым годзе пачалі дабудоўваць трэцюю частку, са званіцай.

Гаворыць Рыгор Сергяюк, старшыня вясковага камітэта „па разбудове":

— Пачалося вязацца ўжо два гады назад, але папярэдні староста як бы не рашаўся пачаць дабудову. Мы ўхвалілі складчыну ад двара, па 100 тысяч. У верасні мінулага года закупілі цэглу. Першую складчыну ўплаціла амаль сто працэнтаў войшкаўцаў, другую — ужо трохі менш... Некаторыя ўплацілі ўжо і па 400 тысяч, і мільён, а некаторыя — маюць толькі па 100 тысяч... Фундамент зрабілі ў мінулым годзе, у лістападзе, але мураваць пачалі сёлета, бо майстры сказалі, што на зіму мураваць не будуць, калі потым яшчэ трэба класці тынкоўку. Яшчэ ў мінулым годзе мы з бацюшкам заказалі адліць звон, у Вышкаў пад Варшаву ездзілі...Месяц ужо будзе, як уцягнулі і звон і крыж...

— Яшчэ многа грошай трэба, каб усё закончыць?

— О, шчэ многа... Крыж ужо я браў за свае грошы, каштаваў ён чатыры з паловай мільёны... Хіба зараз будзе стоп нашай будове, бо няма фінансу...

—А майстар адкуль?

— Майстар наш з Войшкаў, але жыве ён у Беластоку, на пенсіі ўжо. Днёўку ён бярэ вялікую — 230 тысяч... Ну, й войшкаўцы яму дапамагаюць, кожны дзень адзін чалавек як памочнік.

Дзядзька Сергяюк вельмі сумняваецца, ці ўдасца закончыць гэтую „другую" дабудову яшчэ сёлета.

— Нічога, — супакойвае яго айцец Рыгор Сасна. — Пакуль што, пане Сергяюк, усё ідзе на пяцёрку.

Дворык, на якім стаіць войшкаўская цэркаўка, абсаджаны маладой ялінай. Праз некалькі гадоў, адзначае айцец Р. Сасна, калі ёлачкі адскочаць, тут будзе вельмі хораша.

**ЯН МАКСІМЮК**

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

**5. Сінонімы - працяг**

Сінонімы шырока выкарыстоўваюцца ў мове з той мэтай, каб пазбегнуць аднастайнасці мовы і як найдакладней, а часам найбольш вобразна назваць ці апісаць нейкі прадмет, з'яву, дзеянне, прымету. Ёсць розныя спосабы выкарыстання сінонімаў. Гэта: замена слоў у тэксце, „нанізванне" сінонімаў, паралельнае ўжыванне сінонімаў, супастаўленне сінонімаў.1

**Замена слоў у тэксце** — гэта такі спосаб выкарыстання сінанімічных слоў, які заключаецца ў замене аднаго слова ў тэксце блізкім яму па значэнню другім словам, каб пазбегнуць аднастайнасці ў мове, напр.:1. Прабегшы некалькі хат, Арцём *звярнуў* на агароды, *шуснуў* у каноплі, адтуль разораю між капусты *забег* у надворак Юркі Труса, з надворку *заламаў* у вулачку і *пасунуў* проста да калодзежа./К-с/, 2. Дарога *вільнула* ўправа, потым улева, затым зноў *загнула* ў правы бок і зноў *пятляла*, нібы той, хто пракладваў гэтую дарогу, меў намер павярнуцца як не ля кожнага пня./Сав./

**„Нанізванне" сінонімаў /ампліфікацыя** — ад лац.amplificatio — збольшанне, пашырэнне/ — такі спосаб выкарыстання сінанімічных слоў, які заключаецца ў паслядоўным іх ужыванні ў тэксце з мэтай адлюстравання ступені ўзрастання ці аслаблення прыметы, напр.:1. *Трэснула, грукнула, грымнула* з покатам, хлынула цёплае неба на дол./Панч./,

2. Другу баліць — мне *нялёгка*,
Маме баліць — вельмі *цяжка*.
Сыну баліць — *невыносна*.
А Радзіме баліць —
Стыне сэрца ад болю. /Н.З./

**Паралельнае ўжыванне сінонімаў** — такі спосаб выкарыстання сінанімічных слоў, у выніку якога ствараюцца паралельныя сінанімічныя спалучэнні слоў для ўсебаковай характарыстыкі той ці іншай з'явы, напр.:1.Травы *ачысцяцца*, дрэвы *памыюцца*, лівень не зломіць іх — стануць дужэй./Панч./, 2. *Адшумелі* ліпенськія ліўні, навальніцы ў полі *адгулі*. /Грах./

**Супастаўленне сінонімаў** — такі прыём выкарыстання сінанімічных слоў, пры дапамозе якога больш выразна выяўляецца ў кантэксце адметнасць іх значэння і гэтым самым дасягаецца дакладнасць у выражэнні думак. Словы ставяцца ў такі кантэкст, дзе яны як бы супрацьстаўляюцца адно другому, напр.: 1. Не *воблака*, а проста *аблачынка* загадкава плыве над галавой./Ян./, 2. Не *гарыць*, а *тлее*./Прым./, 3. Але *бег*, які там бег. Свіны *трух*. /Сав./

———————

1 В.П.Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы. Мінск 1982, с. 56-58; В.П. Красней, Грані слова, Мінск 1986, с. 73-76.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Віктар Швед

## ІЗНОЎ ЗА ПАРТАЙ

Прамчаўся маланкай
Летні час вясёлы.
Вераснёвым ранкам
Зноў ідзем у школу.

Вольныя хвіліны
Аддалі на працу
І на адпачынак,
Каб сілы набрацца.

І каб гэтай сілы
Быў запас вялікі,
Каб яе хапіла
Да новых канікул.

Ранкам вераснёвым
Сядзем зноў за партай.
Веды ў годзе новым
Здабудзе упартасць.



## ПРЫВІТАННЕ, ШКОЛА!

Юлдаш Сулейман

## БЫВАЙЦЕ, ЦАЦКІ

О, верасень наш жаданы,
Спазняешся ты, аднак.
Чакаем, калі твой ранак
У школу пакліча нас.
Хутчэй жа, хутчэй адрывайце
Лісточкі календара.
Бывайце, усе цацкі, бывайце,
Нам брацца за кніжкі пара.
Дзетсад наш ужо за плячыма,
А ўперадзе — далячынь.
Да школы мы дні палічылі,
Мы ўмеем чытаць і лічыць.
Дык годзе, дык годзе пазніцца,
Ты, верасень, крок свой прыспеш.
Мы будзем выдатна вучыцца.
Мы шлём табе гэты свой верш.

*Пераклаў з узбекскай*
*Сяргей Панізнік*



*...А летнія дні, як пух дзьмухаўца...*
**Фота Я. Целушэцкага.**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Алесь Бадак

## ДЗЕД, ВАЎКІ І АВЕЧКІ

— За шырокаю ракою
Стаіць дзед з барадою.
То стаіць,
То скача.
То смяецца,
То плача.
Калі дзед
Смяецца —
Дождж халодны
Льецца.
Калі дзед
Заплача —
Дождж ідзе
Гарачы!
— А ты мне яго
Пакажаш?
— Паказаць?
Ды што ты кажаш!
Кожны дзень
Каля ракі
Ходзяць
Страшныя ваўкі.
Хто з імі сустракаецца —
Дадому не вяртаецца!
Я і сам ледзь-ледзь
Аднойчы
На абед не трапіў
Воўчы.
Добра, што
Ля рэчкі
Бегалі авечкі.
На мой крык прымчалі
І ваўкоў —
Прагналі!



## МАЛАКО ЦІ АБАРАНАК?

Спрытны,
Шустры
Верабейка
На двары
Знайшоў капейку.
— Чык-чырык! —
Сяброў склікае. —
Паглядзіце,
Што я маю!
Зараз купім
На сняданак
На базары
Абаранак.
Ды смяецца
Кот ля ганка:
— Што за смак
Ад абаранка?!
Лепш купіце
Малака.
Вось дзе, братцы,
Смаката!



## БЕТУЛЯ АЛЬБА

*Працяг з папярэдняга нумара*

Тарашкевіч сеў, пасадзіў хлопчыка насупраць, папрасіў гаварыць спакайней. А калі нарэшце зразумеў, чаго хоча гэты хлапчук, прыкметна ажывіўся, сказаў:

— Хлопчык мае рацыю. Любім паўтараць, што дрэвы — лёгкія горада, а самі нішчым іх... — Ён на хвіліну задумаўся. — Я летась быў у камандзіроўцы ў Фінляндыі. Дык ты, Іванавіч, не паверыш, што робяць фіны, каб зберагчы кожнае дрэўца. Яны сценку кладуць паўкругам, а дрэўца не чапаюць... А мы што робім? Памятаеш, якая прыгожая ліпа расла на вуліцы Якуба Коласа? Мы спілавалі яе. І толькі таму, што нам спатрэбілася паставіць там бытоўку. Можна падумаць, што не знайшлі б іншага месца. Ды ці адзін гэты выпадак?..

— Вы хочаце сказаць, што бярозку трэба пакінуць? — здзівіўся прараб. — А куды ж перанесці стадыён?

— Паслухай, Іванавіч, а ці не лягчэй будзе перанесці „бетулю альбу?" — усміхнуўся Пётр Паўлавіч. І раптам ужо сур'ёзна распарадзіўся: — Зараз жа арганізуй тэхніку. І перасадзі бярозку. Сам пракантралюю. Зразумеў?..

Прараб так паглядзеў на Юрку, што той чуць не прысеў...

Позна вечарам, ужо засынаючы, Юрка чуў размову бацькоў:

— Сёння Пётр Паўлавіч гаварыў нам на рабоце пра нейкага хлопчыка, які ўратаваў бярозку, — расказаў тата. — Увесь сход прысвяціў гэтаму. Загадаў, каб кожнае дрэўца бераглі, як зрэнку вока.

— Ёсць жа дзеці, — уздыхнула мама.— А што робіць наш? Цэлымі днямі гойсае па мікрараёне. Няма часу заняцца ім. Я спакайнейшая была, калі за ім прыглядала бабуля.

Але Юрка ўжо не чуў канца бацькоўскай гамонкі. Сніліся яму высокія дамы. А навокал іх раслі яшчэ больш высокія рамонкі. І гэта было так прыгожа, што многія людзі прыязджалі ў іх мікрараён, каб палюбавацца імі.

Прачнуўся Юрка даволі позна. І адразу пайшоў на балкон. Ён ведаў, што ў гэты час плыве пасажырскі цеплаход. Хацеў паглядзець. І тут убачыў „бетулю альбу". Бярозка шумела пры ўваходзе ў новую школу.

У дзверы пазванілі. Хлопчыку надта не хацелася адыходзіць, ён яшчэ не нагледзеўся на дрэўца. Гэта была першая перамога ў яго жыцці. Але зноў пачуўся рэзкі званок. Хто там такі? Юрка рыўком расчыніў дзверы. Перад ім стаяла тоненькая дзяўчынка ў белай сукеначцы з бубкамі. „Бетуля альба", — падумаў Юрка і засмяяўся.

— Ты чаго? — нахмурылася дзяўчынка.

— Ды так, прабач...

— Мая бабуля запрашае цябе да нас...

**УЛАДЗІМІР МАЛАШКЕВІЧ**





*Летні ўспамін. Эмілька Мартынюк 7 ліпеня была ў Пасынках „на Яна".*
**Фота Жэні Мартынюк.**




### АДКУЛЬ ПАЙШЛІ ГРЫБЫ

Кажуць, што добры казляк лепш кепскае мяса. А ў пост і квас не квасам, калі ў ім няма казлякоў. Без казлякоў, ці, як кажуць, грыбоў, людзі не маглі б пасціць пятроўку. Мо затым у пятроўку больш усяго ядзяць грыбы, што яны й пайшлі з таго, як святы Пятро ўкраў у Хрыста хлеб.

От як гэта было. Хадзіў Хрыстос з Пятром па зямлі ды вучыў людзей, як жыць на свеце. Хадзілі яны ад вёскі да вёскі. Часам іх кармілі добрыя людзі, а часам паганыя не прымалі. Адзін раз ішлі яны цераз вялікае поле. Доўга не было ніякае вёскі. Пятро любіў добра ўжываць, а тут у яго саўсім каля сэрца завіло, бо вельмі прагаладаўся. Было ў іх трохі хлеба. Пятро нёс яго ў торбачцы, за плячамі. Ідуць яны ды йдуць: Хрыстос спераду, а Пятро ззаду. Кончылася поле, увайшлі яны ў лес. Не вытрымаў Пятро, ушчыпнуў крыху хлеба. Пазнаў Хрыстос, што робіць Пятро, і пытае яго: што зрабіць людзям на патрэбу? Хацеў Пятро адказаць, ды не можа: повен рот набіў хлебам, і выплюнуў яго. А з таго пайшлі расці грыбы...

*(З кнігі „Легенды і паданні")*

# Добры Жыцень

## Яраслаў Пархута

(казка)

Пры сяле, у дупле старой вярбы, здавён жыў Жыцень. Дзядок такі. З доўгай барадою.

Як пойдзе сонейка на спачын і ноч апусціцца, Жыцень выходзіў са сваёй схованкі і на поле бег. Там каласок падыме, ад пылу атрасе, там каліўца паправіць, каб лепей расло. Не раз і палівачку браў, ішоў да крыніцы і палеткі ратаваў ад спёкі.

Радаваліся людзі: зямля радзіла, жыта ўмалотным было. Ды аднойчы ў сяло прывалокся Злыдзень. Убачыў, што ў людзей на палях усё добра, наклікаў Жыценя і кажа:

— Не тым займаешся! Жыта і само вырасце. Ты лепей песні пра мяне спявай. А заўпарцішся — згубу на цябе напушчу.

Але Жыцень не спалохаўся. Як хадзіў на палі, так і ходзіць, збажыну даглядае.

Дачуўся Злыдзень, што яго не паслухалі, ды як узлуецца ды як раскрычыцца! Прыбег пад вярбу, усю маёмасць Жыценя спустошыў. Нават палівачку пагнуў.

Вярнуўся Жыцень з поля, убачыў, як нашкодзіў Злыдзень, паківаў са скрухай галавою і пайшоў куды вочы глядзяць.

Не стала Жыценя пры сяле — перастала радзіць і жыта. Занепакоіліся людзі, пачалі думаць-гадаць: што рабіць? Думалі яны, думалі і надумалі: трэба Злыдня з сяла прагнаць, а Жыценя адшукаць і напрасіць, каб зноў пры іх пасяліўся.

Кінуліся ганцы ва ўсе канцы, шукаюць-шукаюць, а знайсці Жыценя не могуць. Раптам бачаць: поркаецца нехта ў градах пры горадзе. Падыходзяць яны, пытаюцца:

— Цябе часам не Жыценем завуць?

— Ага, — адказаў дзядок.

Ганцы адразу павесялелі:

— Прыйшлі мы з просьбай вялікай. Злыдня таго з сяла прагналі, а цябе просім вярнуцца. Слова даём: ад усялякіх злыдняў цябе бараніць будзем!

— Добра, — згадзіўся Жыцень і патупаў услед за ганцамі.

Мінула колькі часу. За сялом зноў жыта сцяною ўстала, зноў буйным коласам закаласілася. А пад вярбою, у цяньку, сядзіць Жыцень і радуецца:

— Будзе жыта ўрадлівае — будзе жыццё багатае.

# ПАЯДЫНАК

Пашка лавіў рыбу. Перад ім, адразу за паплаўком, нібы вялізны залаты карась, купалася сонца. А трошкі далей, каля лазовага куста, сядзелі гусі — важны, горды гусак і дзесяць белых гусак.

Не, гусі не купаліся, яны цікавалі за Пашкам. Глядзелі ўважліва і, як здавалася Пашку, — нават з пагардай.

Такая перамена ў паводзінах знаёмай чарады здзівіла Пашку. Яшчэ ўчора гусі не давалі яму спакою. Гагаталі, білі крыламі па вадзе. А гусак, падплыўшы бліжэй, цэліўся праглынуць чырвоны паплавок. Ён, гусак, разбойнік: аднаго разу так ушчыпнуў Пашку за нагу, што аж сіняк застаўся.

А сёння і гусак, і ўсе гускі сядзелі ціха. Падчэпіць Пашка срэбную плотачку, маленькую, з чайную лыжачку, яны дружна радуюцца:

— Га-га-га!..

І — замаўкаюць.

Пашку падабаецца гэта прызнанне яго рыбацкага таленту. У знак падзякі ён кінуў нават гусаку кавалачак хлеба. А калі зноў выцягнуў плотачку і пачуў дружнае „га-га-га", па-сяброўску падміргнуў свайму даўняму непрыяцелю. Падміргнуў і...

І раптам убачыў у хітрых вочках гусака здзеклівую насмешку. Гусак і ўсе дзесяць гусак смяяліся. Смяяліся з яго, знакамітага на ўсю вёску рыбака!

Не памятаючы сябе ад злосці, Пашка выцяў гусака вудзільнам. Гусак на момант разгубіўся, адплыў ад берага і з пагардай прашыпеў:

— Х-х-хам!..

Пашка аслупянеў. Які ж ён хам? Ён, Пашка Іваноў, — першы вучань у першым класе.

Ад крыўды Пашка аж заплакаў і пабег дадому.

Болей гусак са сваімі гускамі не падплывае да лазовага куста. Праходзячы паўз хату, дзе жыве Пашка, ён дэманстратыўна адварочвае галаву.

Пашка гусака не чапае, але таксама глядзіць на яго з пагардай. І цяжка сказаць, за што яны пасварыліся і хто каго перамог у гэтым дзіўным паядынку.

**Алесь Шашкоў**

# ПОШТА ЗОРКІ

Добры дзень, пані Міра і ўсе чытачы „Зоркі"! Мяне завуць Оля. Я малады карэспандэнт газеты „Зорька" ў Мінску. Я прачытала ў нашай газеце артыкул пра беластоцкую „Зорку" і мне вельмі захацелася з вамі падружыць.

Мне 15 гадоў, я жыву ў Гомелі. Закончыла 9 класаў і цяпер я ў вучылішчы. Я пішу вершы, вельмі люблю сваю Айчыну, яе звычаі, мову. У мяне шмат сяброў у Балгарыі, Чэха-Славакіі і хочацца мне мець сяброў і ў Польшчы.

Калі ласка, пішыце мне — я буду вельмі чакаць лістаў ад хлопчыкаў і дзяўчынак, ад усіх тых, хто кахае „Зорку" і сваю мову. Мой адрас:

Беларусь, 246007, г. Гомель, вул. Савецкая,д. 163, кв. 2. **Гапанцова Оля.**

*

Прывітанне!

Піша вам Ларыса Пашковіч з Камянца. Я прачытала ваш адрас у газеце „Зорька". Я даўно хацела перапісвацца з рабятамі з Польшчы, але мае лісты ці не даходзілі, ці пападалі не ў тыя, што трэба, рукі. Я прашу вас, не адымайце мне апошнюю і адзіную надзею, каб знайсці сяброў у вас. Мой адрас:

Беларусь, г. Камянец, вул. 40 год БССР, д. 7, кв. 13, **Ларыса Пашковіч.**

*

Прывітанне з Гомеля!

Мне 13 гадоў, вучуся ў сёмым класе. Завуць мяне Оля. Люблю маляваць, іграць, ездзіць у лагер, вязаць на прутках, пісаць лісты, люблю маму, тату, Сашу, і ўсё смачнае і цікавае. Збіраю здымкі эстрадных спевакоў, паштоўкі, каляндарыкі, наклейкі. Прапаную абмен сваімі скарбамі.

Мой адрас: Беларусь, г. Гомель, вул. Праезд 9-га Мая,д. 11. **Кавалёва Оля.**

# АДГАДАНКА





**Знайдзі дзесяць адрозненняў на гэтых малюнках.**

# „МЯСЦОВЫ ЧАС"

На самым пачатку творчага жыцця рок-гурта „Мясцовы час" у штотыднёвіку „Ніва" за 24.IX.1989 г. з'явіўся вялікі артыкул мінскага журналіста Вітаўта Мартыненкі „...І прыйшоў „Мясцовы час". Гэта была адна з першых публікацый пра гурт. І полацкія рок-музыкі вельмі ўдзячныя за яе. У той недалёкі час нават ідэю аб стварэнні нацыянальнага беларускага року ў мінкультаўскіх структурах рэспублікі ўспрымалі як ерась. Маўчалі зацугленыя газеты, а калі і не маўчалі, то пісалі пра першыя беларускамоўныя гурты, як пра „происки националистов".

Беларускі рок і сёння ў андэграўндзе. Яго лідэры, нібыта пошасці, баяцца афіцыйных структур. Музыкі разлічваюць толькі на свае сілы і магчымасці. І ўжо можна сказаць, поспех іх напаткаў. І „Мроя", і „Уліс", і „Мясцовы час" цяпер вядомыя не толькі ў сваёй роднай Беларусі. Ніводзін расейскамоўны тутэйшы гурт гэткага не дамогся. Няхай сабе яны і ўдзельнічалі ў музычных фестывалях і тусоўках па ўсей вялікай Расіі. Няхай сабе і атрымлівалі прызы і ўзнагароды. Няхай сабе іх паказвалі па першай агульнасаюзнай праграме тэлебачання. Бо таўро правінцыйнасці адразу нагадвала ім пра іх месца ў хвасце эшалона расійскай рок-музыкі. І толькі хлопцы з беларускамоўных гуртоў казалі, што трэба ствараць свой рок, нацыянальны, каб стаць поруч з польскім, венгерскім, французскім і іншымі. Толькі тады мажліва стацца самастойнай, незалежнай з'явай у стракатым музычным жыцці свету.

Казалі пра гэта і хлопцы з „Мясцовага часу". Нядаўна за свой кошт яны запісалі музычны матэрыял для сваёй першай кружэлкі, падрыхтавалі чарговую новую праграму, з якой і прыехалі на фестываль „Басовішча-91". Такім чынам, у аматараў беларускага рока за заходняй мяжой была магчымасць пабачыць яшчэ адну сапраўдную беларускую зорку.

**АЛЕСЬ АРКУШ.**
**г. Наваполацк**



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Маё ты Сэрцайка! Адчуваю сябе без віны вінаватай. Ёсць у мяне хлопец, якога я вельмі кахаю. З нікім дагэтуль не было мне так добра, як з ім. Бачу, што і ён за мною свету не бачыць. Адно толькі вось засмучае мяне: ён мне не верыць у сардэчных справах. Страшна зайздросны! Здаецца яму, што ўсе мужчыны навокал думаюць пра адно: каб толькі нырнуць у мой ложак. Праўда, што ў мяне ёсць шмат сяброў і проста знаёмых мужчын, з якімі часамі люблю правесці свабодную хвіліну. Мне з імі добра, яны мне проста неабходныя, але ж гэта не абазначае, што ўсе яны — мае каханкі. У мяне ёсць адзін хлопец, якога я кахаю, і мне гэтага дастаткова, але ўсё ж часамі хочацца пагаварыць з разумным сябрам ці калегам па рабоце.

Трэба было мне аформіць адну важную справу. Пайшла я да крыху знаёмага дырэктара. Праўда: пачаставаў мяне кавай, кілішкам каньяку, мы вельмі міла пагаварылі, а пасля ён нават падвёз мяне дахаты службовым самаходам. Абяцаў памагчы аформіць справу — і памог. Я яму за гэта вельмі ўдзячная, бо была гэта для мяне справа жыцця і смерці.

Але сталася бяда. Мой хлопец (у яго ёсць ключы ад маёй кватэры) чакаў мяне і ўбачыў праз акно, як я выходзіла з самахода таго дырэктара. На няшчасце, той дырэктар, развітваючыся са мною, нахіліўся і пацалаваў мяне ў руку, а пасля яшчэ ў шчаку. Божа, што было! А ці гэта такое страшнае злачынства?

Чаго я толькі не наслухалася ад майго хлопца! А я ж сапраўды не мела ніякіх кепскіх намераў у адносінах да яго. У яго адчуванні я ўжо была ў пасцелі з гэтым дырэктарам, а тое, што ён задэманстраваў, развітваючыся са мною, толькі далікатным эпілогам пасля ўсяго.

Не ведаю, Сэрцайка, што рабіць. Дырэктар той быў ужо пажылым мужчынам і пацалаваў мяне хутчэй за ўсё як дачку. Мо я крыху яму і спадабалася. Як трэба было справу аформіць, дык мой хлопец нічога не меў супраць таго, каб я ішла прасіць дапамогі дырэктара. Цяпер жа, калі справа аформлена, дык толькі і гаворыць, што я — к... Мне вельмі крыўдна, але я яго і так кахаю. Што рабіць?

**Ліля**

Ліля! Скажы свайму хлопцу, што ён неначытаны чалавек. Ці не Антон Чэхаў пісаў калісьці, што кожная жанчына павінна мець прынамсі чатырох мужчын: добрага мужа, разумнага прыяцеля, багатага апекуна і прыгожага каханка. Калі хоча быць на першым месцы, павінен пастарацца і папрасіць тваёй рукі.

**СЭРЦАЙКА**

**ПОШТА СЭРЦАЙКА.**

Ад мілых „басаўцаў" Сэрцайка атрымала ліст з Парыжа. Пішуць яны: „Прывітанні з Парыжа, асабліва з плошчы Пігаль! Узбагачаныя новымі дасведчаннямі, узбагацім „Сэрцайка" чарговымі перажываннямі ў сардэчных тайнах беларускай моладзі." І падпісана: „Вашыя пастаянныя чытачы." Ну што ж, трымаем за слова: хутчэй прыязджайце, хутчэй дзяліцеся! Думаю, што пытанні на пляцы Пігаль не ўзнікаюць, а парыжскі вопыт нам надта прыдасца.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

У першую ноч сніцца мне такі сон : іду па могільніку, быццам ён на месцы, дзе цяпер у Беластоку амфітэатр. Там растуць высокія, старыя, залёныя дрэвы. Гляджу, з левага боку магілка быццам знаёмага чалавека, старая, крыж цэментны, амшэлы, а пад крыжам ляжыць вялікая падушка, абапертая аб падставу крыжа.

Другая ноч. Я іду па дарозе з дзедам — быццам бы мы выбраліся з ім у далёкі горад, а было гэта даўно, быццам перад вайною ці яшчэ нават першай. Мы як басякі, бедна апранутыя, але не наракаем; быццам гэта экскурсія — за плячамі катомкі ці рукзакі. Бачу — дзеду робіцца блага, ён слабее. Я кажу: „Ідзем да доктара!", а дзед упіраецца, не хоча. Я яго цягну, а ён запіраецца назад. Так шарпаемся, аж дзед пакідае вопратку ў маіх руках. Дзеду наяве каля 90 гадоў, ён, хаця ўжо відна, што зусім стары, не наракае на здароўе, хаця 5 гадоў таму назад вельмі цяжка хварэў. А ў сне я бачу, што цела дзеда зусім маладое, як у 30-35-гадовага чалавека, румянае. Я ўводжу дзеда ў нейкую старую драўляную хату, кладу яго на шырокую лаву пад вакном і расціраю яго цела.

Ці гэты сон, можа, на смерць? Перад смерцю другога дзеда снілася мая нябожчыца бабуля, як я яе ратавала ў нейкіх катакомбах, лячыла і масавала, а цела яе было вельмі маладое, гладкае, ружовае, толькі няўладнае, хворае, і ажывала пад маімі рукамі.

**Міра**

Міра! Першы сон смерці не прадвяшчае /могілкі/, але можна спадзявацца нейкага смутку і перажыванняў /крыж/ у сувязі з хваробай /падушка ля крыжа/.

Другі сон нацэльвае на тое, што захварэе твой дзед. У гэтым асабліва пераконвае факт, што дзед застаўся без вопраткі.

**АСТРОН**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

## МАРЫНАВАНАЯ ПАПРЫКА

На 1 кг папрыкі трэба ўзяць шклянку 3-працэнтнага воцату, шклянку вады, 5 зубкоў часнаку, па некалькі зярнят гваздзікі, пахучага перцу /англійскага зелля/, перцу, гарчыцы, каляндры, крыху эстрагону, соль, цукар.

Памыць струкі папрыкі, зрэзаць іх каля шыпулькі, выняць насенне, спаласнуць, палажыць у кіпячую ваду. Варыць, накрыўшы, мінуты 3-5, тады адцадзіць, паліць халоднай вадой. Струкі можна пакінуць цэлымі, нарэзаць на палавінкі ці чвэрткі, або пасля варкі абабраць і нарэзаць, як макарон.

Папрыку складаць у памытыя і вывараныя слоікі, дадаючы абабраныя, спаласнутыя і перарэзаныя на палавінкі зубкі часнаку.

Закіпяціць ваду з соллю, цукрам, воцатам, перцам, англійскім зеллем, гарчыцай, каляндрай і эстрагонам. Кіпетнем заліць зложаную ў слоікі папрыку.

Слоікі зачыніць пакрыўкамі з пергаментнай паперай у сярэдзіне і адразу пастэрызаваць іх пры тэмпературы 90 градусаў Цэльсія на працягу 15-20 мінут. Тады вымаць слоікі з вады і астуджваць

## МАРЫНАВАНАЯ ШАЛОТКА /ДРОБНАЯ ЦЫБУЛЬКА/

На 1 кг шалоткі трэба ўзяць 1,5 лыжачкі солі, 1,5 лыжкі цукру, некалькі гваздзікаў, 2-3 лаўровыя лісткі, па некалькі зярнят перцу і англійскага зелля /пахучага перцу/, шклянку вады, паўшклянкі віннага воцату.

Цыбульку абабраць, спаласнуць, усыпаць у кіпячую ваду, закіпяціць, адцадзіць. З 1 шклянкі вады, солі, цукру і воцату, дадаўшы лаўровы лісток, зрабіць заліву. Адцэджаную цыбульку палажыць у вывараныя маленькія слоічкі, заліць гарачай залівай, дадаючы адначасова гваздзіку, перац і англійскае зелле. Слоікі зачыніць пакрыўкамі з пергаментнай паперай у сярэдзіне. Пастэрызаваць на працягу 20 мінут пры тэмпературы 90 градусаў Цэльсія.

## МАРЫНАВАНЫ ГАРБУЗ

На 1 кг ачышчанага гарбуза трэба ўзяць шклянку віннага воцату, 40 дэкаў цукру, лыжачку імбіру, некалькі гваздзік, крыху солі.

Гарбуз памыць, абабраць, выняць з яго мякіш з семечкамі і нарэзаць костачкай. Воцат закіпяціць з цукрам і соллю, можна яшчэ дадаць паўшклянкі вады. У кіпецень палажыць гарбуз, варыць некалькі мінут, дадаць прыправы. Усё пераналажыць у вывараныя слоікі, зачыніць закруткамі з пергаментнай паперай у сярэдзіне. Пастэрызаваць пры тэмпературы 95 градусаў Цэльсія на працягу 20 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**

## САЎКА БРЭША - ВЕЦЕР НОСІЦЬ

*Маналог абывацеля ля тэлеэкрана*

Саўка брэша — вецер носіць
Вось ужо каторы дзень.
Ці то праўда там галосіць,
Ці то крыўда рэй вядзе.
Ці халера разбярэцца
У іх парламенцкай вайне:
Адзін пнецца, другі прэцца,
Шчэй крычыць — авохці ж мне!
Каб павекі ваша гора:
Біць аб зубы языком.
Толькі ведай, дзе каторы:
„Бэнээф" які ці „ком".
Шчэ не выдалі законы,
Шчэ рэгламент не ўвялі,
А ўжо ў крамах макароны
Падчыстую падмялі.
Чым ямчэй парламент меле,
Чым руплівей жме ЦаКа,
Дык цякаюць вермішэлі,
Лататы дае мука.
А якога д'ябла ведаць,
Хто там „за", ды хто „супроць"?
Ім — з трыбуны ў бар абедаць,
Мне — з чаргі ды за аброць.
Саўка брэша — вецер носіць.
Камароўскі філіял!
Галасуюць? Не. Галосяць.
А! Бадай бы ўжо фінал.

**Віктар Ляшчына**
*(„Чырвоная змена")*




*************************************************************************



# ПАДПІЛЬНАВАЎ

На даху было цёмна і холадна, вецер прадзімаў наскрозь. Мужчына прысеў, трымаючыся за антэну, каб не знесла.

Дом насупраць свяціў агнямі. Мужчына ўзрадаваўся. што акно, за якім ён сачыў, не завешана. А вунь і яна ходзіць па пакоі адна-адненька. Запрашала ўчора на вячэру, але ён адмовіўся, спаслаўся на справы.

Ён хадзіў на гэты дах ужо трэці месяц, бо ведаў: будучую жонку варта вельмі пільна праверыць, з табою яна адна, а сам-насам зусім іншая. Тут табе клянецца, што не п'е, не курыць, а дома зашыецца ў каморку і робіць, што захоча. Ён вельмі баяўся памыліцца ў сваёй абранніцы. Возьмеш абы-што, а пасля пакутуй!

Яна села на канапу, закінула нагу на нагу. І ён мо ў тысячны раз адзначыў, якія ў яе прыгожыя і стройныя ногі, якая яна прывабная.

„Няхай гарыць гэтае сабачае халасяцкае жыццё! Хопіць! Жанюся! Зараз пайду і зраблю ёй прапанову!"

Ён ужо быў гатовы сарвацца з месца і ляцець уніз, як раптам убачыў у яе руках пачак цыгарэт. Яна дастала цыгарэту, прыкурыла, смачна зацягнулася.

Яго нібы варам абварылі! Вось! Вось! Той момант, якога ён так доўга чакаў. Клялася, бажылася, што не курыць. А сама смаліць, як мужык! Падпільнаваў! Мяне не правядзеш, як вераб'я на мякіне. Я — верабей стрэляны. Пашукаем болей вартую кандыдатуру. Спяшацца некуды — мне толькі сорак тры стукнула...

**Зінаіда Дудзюк**

## ІМПАРТНАЯ „САЛАТА"

— І яна адмовіла табе?
— Так, дружа.
— Не смуткуй. Ці ты не ведаеш, што жанчыны, калі кажуць „не", то думаюць „так"?
— Але ж яна не сказала мне „не", а „ідзі к чорту"!

*

— Ці хочаш ты, каб я была табе верная, як сабака?
— Так, хачу...
— Тады купі мне залаты ланцужок.

*

Муж чытае газету:
— Вось, паглядзі, — звяртаецца ён да жонкі, — вучоныя даказваюць, што жанчыне трэба больш спаць, чым мужчыне.
— А для чаго ты мне гэта кажаш?
— А таму, што табе трэба па начах спаць, а не чакаць, пакуль я вярнуся.

*

Муж, хістаючыся пад дзвярыма, гукае:
— Любімая, апошні раз піў...
— Вось і добра, пераначуеш апошні раз у хляве.

*

Жанчына заглядае ў кабінет тэрапеўта:
— Прабачце, доктар, я не ў вас бюстгальтар забылася?
— Не, не ў мяне.
— А, ну, значыць, у акуліста.

*

— Вы ведаеце, у мяне жонка — анёл!
— Шчаслівчык, а мая яшчэ жыве.

*

Жонка дакарала мужа, што ён, як толькі прыходзіць дадому, загадвае: „У ложак!" Маўляў, не, каб пагаварыць пра мастацтва, душу, Шастаковіча.

На наступны дзень муж прыходзіць з работы і пытаецца:
— Слухай, жонка, ты Рэмбранта чытала?
— Не.
— У ложак!

З украінскай газеты *„Думка"*
падабраў і пераклаў

**В. Бабей**

*************************************************************************

## ШТО ТВОРЫЦЦА НА ТЫМ СВЕЦЕ

Захацелася Ходжу Насрэддзіну паглядзець на свае вочы, як анёлы падвяргаюць пакойнікаў допыту; а ўвогуле ён хацеў даведацца, што творыцца на тым свеце. І палез ён у свежавыкапаную магілу.

Сядзіць там — і чуе нейкі шум. „Здаецца, анёлы набліжаюцца... Ох, Госпадзі, як страшна. А што будзе, калі пачнецца допыт..." І ўжо вырашыў уцякаць, стаў вылазіць з магілы, як наскочылі на яго коні і вярблюды нейкіх гандляроў. Коні перапалохаліся, некалькі ездакоў зваліліся на зямлю.

Неяк гандляры пазбіраліся, ачухаліся, глядзяць — Ходжа Насрэддзін.

— Ты хто такі? — пытаюцца.

— Я? Нябожчык!

— Дык чаго ж тут бадзяешся, замест ціха ў магіле ляжаць?

Гандляры накінуліся на яго і давай біць. Ледзь ад іх Ходжа вырваўся, ледзь дадому даплёўся.

— Дзе гэта ты быў? — пытаецца жонка.

— На тым свеце, жонка, на тым свеце...

— Ну, так! І што дзеецца на тым свеце?

— Калі не палохаць коней гандляроў, — сказаў Ходжа, паціраючы сінякі, — то нічога асаблівага там не творыцца...

## МІНІ - КРЫЖАВАНКА



**Упоперак:** 5) майстэрства вядзення буйных ваенных аперацый, кампаній і ўсёй вайны, 6) не грамадскі прадпрыемец, гандляр, 7) ап'яненне або захапленне.

**Уніз:** 1) старая, бабуля, 2) дарожная сумка, 3) сто кілаграмаў, 4) сівыя валасы.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на міні-крыжаванку, змешчаную ў н-ры 29:**

**Упоперак:** рэнтгенатэрапія, бензазапраўшчык.

**Уніз:** рэпер, Штазі, ледзь, малпа, дэман, парша, пірыт.

*************************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- wrzesień - 10. 000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.